ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

7 ЛЮТАГА 2003 г. № 6/4192 КОШТ 510 РУБ.

АНОНС!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

3

**Адны з музычных твораў выдадзеных у Мінску Аляксандрам ВАЛІЦКІМ, лічыліся незваротна страчанымі, іншыя былі невядомыя нават знаным спецыялістам. Тым часам, маўклівыя сведкі музычнай гісторыі Мінска XIX ст. чакалі свайго вяртання...**

10-11



**Заўтра, як сёння і ўчора, мы будзем ганарыцца Нясвіжскім замкам.**

12

ПАМЯЦЬ

## АПОШНЯЕ МІРАПАМАЗАННЕ МІХАІЛА ПТАШУКА

*Гэтымі днямі споўнілася б 60 гадоў народнаму артысту Беларусі, славутаму кінарэжысёру Міхаілу ПТАШУКУ.*

*Пра яго жыццё і творчасць*

чытайце на стар. 4-5

## НАВУЧЫЦЦА БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫМІ

*У Купалаўскім тэатры прайшоў прэм'ерны спектакль "Дзіўная місіс Сэвідж" рэжысёра Аляксандра ГАРЦУЕВА. Тэатральны аглядальнік "ЛіМа" Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА дзеліцца ўражаннямі*

на стар. 11



## КОЛА ДЗЁН

**Пры вяртанні на зямлю пацярпеў катастрофу амерыканскі касмічны карабель. Загінула сем астранаўтаў. Прычыны трагедыі высвятляюцца. Цяпер да Міжнароднай касмічнай станцыі будуць лётаць толькі расійскія караблі, і планы палёту да Марса зноў адсоўваюцца на нявызначаны час.**

**А да нас вярнуліся маразы. У кватэрах цёпла. Праўда, людзей усхвалявала чарговае істотнае павышэнне кватрплаты...**

### *ГАТОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ*

2 сакавіка адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы. Як і меркавалася, колькасць жадаючых вылучыцца ў дэпутаты не нашмат большая ў параўнанні з колькасцю акруг, асабліва гэта тычыцца сельскіх і пасялковых Саветаў. Так, на 24012 дэпутацкіх месцаў прэтэндуюць 26567 чалавек. Сярод Саветаў усіх узроўняў вылучаецца наша сталіца, дзе на 55 мандатаў прэтэндуюць 305 чалавек. У абласных гарадах на 688 месцаў 1572 прэтэндэнты. Колькасць вылучаемых па партыйных спісах невысокая — 1033 кандыдаты, што складае 4 працэнты ад усіх вылучаных. Найбольшую актыўнасць выявіла ЛДПБ – 329 чалавек, ПКБ — 208, КПБ — 141, АГП — 130, БСДПНГ — 103 і БНФ — 76 чалавек. Найбольшую колькасць кандыдатаў у дэпутаты вылучылі працоўныя калектывы — 13586 чалавек. 11948 чалавек было вылучана шляхам збору подпісаў.

### *ПЕРАРАЗЛІК ТЫДНЯ*

Урад нашай краіны прыняў рашэнне правесці ў гэтым месяцы пазачарговы пераразлік пенсій. Максімальная пенсія працуючых пенсіянераў (пры стажы не менш за 45 гадоў у мужчын ці 40 гадоў у жанчын і індывідуальным каэфіцыенце 1,3 і вышэй) складзе 112969 рублёў, а максімальная пенсія непрацуючых пенсіянераў (пры такім жа стажы і індывідуальным каэфіцыенце 4,0 і болей) — 155629 рублёў. У сярэднім лютаўская пенсія па ўзросце павялічыцца на 7 працэнтаў і будзе адпавядаць 100,5 тысячам рублёў.

### *ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ*

Завяршыўся асенне-зімовы прызыў у войска. Прызыву на тэрміновую вайсковую службу падлягалі больш за 80 тысяч юнакоў, але толькі адзін з трох прызыўнікоў атрымаў магчымасць служыць. Усяго ў вайсковыя падраздзяленні накіравана каля 14 тысяч навабранцаў.

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

Бацьку прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Генадзя Навіцкага споўнілася 100 гадоў. Карэнны магіляўчанін Васіль Іванавіч Навіцкі жыве ў абласным цэнтры ў сваім доме недалёка ад чыгуначнага вакзала з жонкай Ганнай Сямёнаўнай, якая нарадзілася ў 1914 годзе. Васіль Іванавіч нарадзіўся ў Магілёве 29 студзеня 1903 года. Сярод мужчын Васіль Іванавіч Навіцкі — самы старэйшы ў Магілёўскай вобласці.

### *ПАПУЛЯРНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Усё большую папулярнасць заваёўвае сярод абітурыентаў цэнтралізаванае тэсціраванне, якое ўяўляе сабой альтэрнатыву ўступным экзаменам. Летась было здадзена 60379 тэстаў, што амаль удвая больш, чым у папярэднім годзе. Арганізацыяй і правядзеннем тэсціравання ў нашай краіне займаецца Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў. У гэтым годзе тэсціраванне па рускай мове будзе 30 сакавіка, па беларускай мове — 6 красавіка, па хіміі — 19 красавіка, па фізіцы — 20 красавіка, па біялогіі — 3 мая, па матэматыцы — 4 мая.

### *ПАСЛУГІ ТЫДНЯ*

З 1 лютага кругласутачнымі даведачна-інфармацыйнымі службамі Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі змогуць карыстацца жыхары ўсёй нашай краіны. Для агульнарэспубліканскага доступу адкрываюцца наступныя даведачныя службы: 009 (даведкі аб нумарах тэлефонаў насельніцтва, юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў Мінска), 094 (гараскоп на тыдзень), 095 (прагноз надвор'я), 096 (казкі па тэлефоне) і 088 (аўтаадказчык дакладнага часу). Доступ абанентаў тэлефоннай сеткі агульнага карыстання да гэтых службаў будзе ажыццяўляцца па нумары: 8-017-99 (тэлефон патрэбнай даведачнай службы) — 11. Сума аплаты званка будзе ўключаць у сябе: кошт міжгародняй унутрыабласной тэлефоннай сувязі, пахвілінную аплату гарадскога злучэння і кошт даведачна-інфармацыйнай паслугі. Кошт службаў "094" і "096" складае 22 рублі за адну хвіліну, "095" — 33 рублі за адну даведку, "088" — 5 рублёў за даведку. Кошт даведкі "009" залежыць ад часу сутак: днём — 70 рублёў, а з 22 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы — 140 рублёў.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

На працягу 2002 года ў нашай краіне было выяўлена 915 новых выпадкаў ВІЧ-інфекцый. Такім чынам, па стане на 1 студзеня 2003 года ў нас агульная колькасць выяўленых ВІЧ-інфіцыраваных дасягнула 4772 чалавек. Пераважную колькасць хворых складае моладзь ва ўзросце ад 20 да 24 гадоў (41,2 працэнта ад агульнай колькасці). Па колькасці зарэгістраваных выпадкаў па-ранейшаму "лідзіруе" Гомельская вобласць (2991 выпадак, або 195,8 на 100 тысяч чалавек). Усяго з пачатку эпідэміі ВІЧ/СНІД у нашай краіне зарэгістравана 270 лакальных выпадкаў сярод ВІЧ-інфіцыраваных.

## МОЖНА ПАДПІСАЦЦА І СЁННЯ!

Шаноўныя чытачы! На першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ" можна падпісацца і сёння. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**

**ВІНШУЕМ!**

# ПОДЫХ ВЯСНЫ

5 лютага народнаму мастаку Беларусі Леаніду Дзмітрыевічу Шчамялёву споўнілася восемдзесят год. Юбілейную дату мастак адзначыў выставай у мінскім Палацы мастацтваў. Гэтая выстава засведчыла, што для сапраўднага творцы ўзрост не праблема. Створанае Леанідам Дзмітрыевічам за апошні час мае для цікаўнага гледача не меншую каштоўнасць, чым тое, што майстар зрабіў дзесяць і дваццаць гадоў таму.

Ягоную творчую біяграфію ў пэўных праявах можна лічыць адбіткам гісторыі краіны. Мастак — удзельнік вайны, якую ва ўсім свеце называюць Другой сусветнай, а ў нас — Вялікай Айчыннай. Безумоўна, гэтыя драматычныя падзеі паўплывалі на ягоную творчасць, вызначылі стылёвыя характарыстыкі і сэнсавую напоўненасць ягонага жывапісу (дарэчы, у адрозненні ад шэрагу сваіх калег, Леанід Шчамялёў усё жыццё застаецца верным аднаму "цэху" — жывапісному, прытым што з ягоным разуменнем пластыкі мог бы атрымацца цікавы графік ці скульптар). Але гэта не значыць, што мастак на ўсё жыццё застаўся ў палоне ваенных успамінаў. У творчасці праявілася ягонае жыццялюбства. Пахадзіўшы побач са смерцю, мастак яшчэ болей шануе жыццё ў ягоных шчаслівых праявах.



Па ягоных словах, яму цяжка кантактаваць з ветэранамі, якія "дагэтуль ваююць, дагэтуль у іконах".

Тое, што сёння мы ўспрымаем нармальна, як дадзенасць, напачатку творчасці каштавала Леаніду Шчамялёву нерваў. Ягоная стылістыка трактавалася як "фармалізм" з адпаведнымі "арганізацыйнымі высновамі" для мастака. Але Леаніду Дзмітрыевічу хапіла таленту і волі застацца самім сабой.

Ягоны ўплыў на жывапісную культуру Беларусі другой паловы XX стагоддзя — велізарны. Ён мае шмат вучняў і паслядоўнікаў. Зірнеш на таго ці іншага маладога авангардыста і ўбачыш плён творчасці Шчамялёва. Не наўпрост, зразумела, не плагіят — але адбітак шчамялёўскага досведу, шчамялёўскай жыццёвай філасофіі.

Зрэшты, тое, што ў восемдзесят год чалавек не стаміўся ад жыцця, не страціў цікавасць да свету і людзей, характарызуе мастака з самага лепшага боку. Леанід Шчамялёў па-ранейшаму напачатку шляху і яшчэ неадноўчы здзівіць гледачоў і калег сваімі палотнамі. Дзіўная рэч: нават у ягоных зімовых адчуваеш подых вясны.

**П. В.**

**Фота К. ДРОБАВА.**



"Мароз і сонца"



"Настальгія"

**ІМПРЭЗЫ**

# АД ВЕРШАЎ — ДА ФЭНТЭЗІ

29 студзеня ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча прайшла сяброўская сустрэча ўдзельнікаў літаратурнага салона "Вянок" з пісьменніцай Раісай Баравіковай. Супрацоўнікі музея і бібліятэк пазнаёміліся з біяграфіяй Раісы Андрэеўны, пачулі яе вершы ў аўтарскім выкананні, даведаліся пра творчыя планы пісьменніцы, лаўрэата некалькіх літаратурных і Дзяржаўнай прэмій, галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць". Р. Баравікова падзялілася з прысутнымі сваімі поглядамі на сям'ю і творчасць. Яна расказала пра новую сваю кнігу апавяданняў "Вячэра манекенаў", нядаўна выдадзеную "Мастацкай літаратурай". Прыхільнікі таленту пісьменніцы дазналіся, што цяпер яна працуе ў жанры "фэнтэзі", г.зн. піша рэалістычныя творы з элементамі фантастыкі. Пісьменніца прайшла незвычайны творчы шлях: ад праніклёнага лірыка да празаіка і гумарыста. Сярод яе творчых набыткаў — некалькі п'ес, у тым ліку гістарычная драма "Барбара Радзівіл", якая ў 1994—2000 гадах ішла на Малой сцэне Купалаўскага тэатра ў пастаноўцы рэжысёра В. Мазынскага. На матэрыяле некалі знойдзенага прафесарам А. Мальдзісам "Дзённіка Саламеі Пільштыновай" пісьменніца стварыла гістарычную аповесць "Саламея". Раіса Андрэеўна раскрыла асобныя сакрэты плённай творчасці для дзяцей. А літаратурны свой поспех яна вытлумачыла тым, што ад прыроды ці ў выніку выхавання мае шчаслівы характар, і гэта вельмі дапамагае ў жыцці. Пісьменніца пераканана: трэба займацца найперш асветніцтвам, тады ў беларускай літаратуры нарэшце з'явіцца пастаяннае шырокае кола чытачоў.

**С. Я.**

**ВЫСТАВЫ**

# КІРМАШ У ТРАЕЦКІМ

Гэты кірмаш добра вядомы жыхарам Мінска, бо, дзякуючы намаганням Беларускага фонду культуры, у Траецкім прайшлі некалькі сапраўдных кірмашоў, дзе былі прадстаўлены розныя рэгіёны Беларусі. Пад назвай "Кірмаш у Траецкім" адкрылася і працуе этнаграфічна-мастацкая выстава ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Здаецца, крышку нетрадыцыйна для літаратурнага музея. Але гэта толькі здаецца, бо ўсё, што адбываецца ў грамадстве, знайшло сваё адлюстраванне ў літаратуры.

Выстава "Кірмаш у Траецкім" распавядае аб адной са старонак жыцця чалавека — кірмашовы гандаль. Госці змогуць пазнаёміцца з традыцыйнымі рамёствамі беларусаў і ўбачыць тыя рэчы, якімі гандлявалі на працягу стагоддзяў. І як неад'емная частка кірмашу — батлейка (лялечны тэатр). На выставе прадстаўлены матэрыялы з фондаў музея, а таксама мастацкія творы навучэнцаў Мінскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча імя А. Глебава.

Часткова аднаўлены інтэр'ер сялянскай хаты дае магчымасць убачыць, якое месца займалі многія рэчы ў жыцці чалавека. Напрыклад, як выкарыстоўвалі куфар, які гаспадар мог набыць на кірмашы, калі не быў здольны зрабіць яго сам.

Выстава атрымалася вобразнай, цікавай. Яна прыцягвае ўвагу як дзяцей, так і дарослых, асабліва, калі можна ўбачыць сапраўдны батлеечны спектакль, патанчыць ці прыняць непасрэдны ўдзел у гандлёва-гульнёвых дзеяннях, бо шэраг прадметаў можна патрымаць у руках.

**Вольга ГУЛЕВА**

# ЦІ НЕ НАЗАЎСЁДЫ СЫШЛІ?..

Беларуская літаратура — літаратура, якая выйшла з вёскі. З забітай, з пакутлівай і гаротнай. І разам з тым — з багатай, напоўненай фальклорнай, духоўнай чысцінёй. З вёскі, якая і зараз яшчэ падаецца асяродкам высокага культурнага гарэння, энергетычнай крыніцай будучага прагрэсу, прыгажосці і адначасова руплівым суддзёю, строгім крытыкам сённяшняй рэчаіснасці ў любых яе праявах. Так гэта ці не так? Вельмі хацелася б, каб вёска яшчэ хаця б здавалася такою — прыкладам, стагоддзе-другое. І, можа, за гэты час горад, наш горад (найперш — Мінск) стане сапраўды горадам, як вялікім культурным цэнтрам у побытавым сэнсе.

Але ж пра вёску... Яна не т а к а я. Духоўнае апірышча, высокая трываласць, энергетыка вясковай культуры — у самадзейнасці, у нешматлікіх клубах і бібліятэках (іх шмат, але прыгажосцю, культурай радуюць нешматлікія), у адзінках майстроў народнай творчасці, у кнігах і запісах, на старонках газет. На жаль, гэта так. У сялянскіх хатах, на каровніках і свінафермах, у канторы калгаснага праўлення жыццё даўно іншае. І калі яшчэ дзесяць-пятнаццаць гадоў таму гэтае жыццё было прыхавана прасцінай, коўдрай, няхай сабе і не дужа тоўстай, умоўнага дабрабыту, то зараз прасціна парваная, коўдра зусім знікла. Роспачна-п'яная вёска схавана, як з'ява сацыяльнай небяспекі і трывогі, відаць, толькі пад коўдрай невысокай патрабавальнасці вяскоўцаў. Калі тры месяцы не выплачваюць зарплаты, то людзі там радуюцца атрыманым у аднаразовым парадку 150—200 тысячам рублёў. А хтосьці і меншай суме. Радуюцца і тут жа многія спяшаюцца ў краму за танным вiном.

Пра які ж фальклор і якую кнігу ў такім разе весці размову?.. А мы ўсё яшчэ спадзяёмся на шматтысячныя тыражы — маўляў, быў жа час, калі народ чытаў. І самі таго як быццам не бачым, што народ, які бавіў час за кнігай, сыходзіць, знікае з явы. А следам...

Цяжка ездзіць у вёску. Цяжка не таму, што правінцыя (райцэнтры, немалыя яшчэ па колькасці насельнікаў) нашмат розніцца сваімі ўмовамі жыцця. У Расонах, напрыклад, не горшая гасцініца, чым большасць гасцініц у Мінску ці ў Магілёве. Скажам, у Вілейцы, як і ў многіх іншых гарадах, тая ж гарачая вада... І ў глыбінцы (няхай сабе і вёска з дзесяці хат) ёсць свае адметнасці, асабліва ўлетку. Цяжка па іншай прычыне: цяжкім, на дзіва жорсткім уяўляецца сённяшні эканамічны ўклад вясковага жыцця.

Помнім, ведаем мы аб гэтым, едучы ў вясковую школу на сустрэчу з юнымі чытачамі? Ці ўсё гэта магчымае, здольнае існаваць паасобку — безгаспадарчасць і клопат аб культуры? Ці можна іх увогуле раздзяліць, раскласці па частках, адвесці кожнаму клопату сваю палічку? Наўрад ці. Нават на хвіліну, забываючыся пра фундаментальную грашовую аснову культурніцкага жыцця, мы не можам застацца ўбаку ад усіх бядотаў, згрызотаў часу, ад складанасцяў жыцця. Не можам ці не павінны магчы...

А тым часам часопісы "згубілі" свае публіцыстычныя раздзелы. А тым часам у прозе першыя пазіцыі заняла гістарычная тэма, аповесці, апавяданні — міфалагізмы і розныя містэрыі. І гэта пасвойму зразумела. Вясковая тэма ў свой час натаміла. За чыгунамі, сялянскай печчу згубіўся чалавек. Але ж ці знайшлі мы яго сёння? І галоўнае — губляем вёску. І як фізічную, і як духоўную істоту.

*Можа, й было напачатку слова*
*З доляй падтэксту на вёску —*
*аснова.*
*Можа, й было тое грэшнае слова*
*З дарогай у свет па літасці*
*божай...*
*А горад узяў і душу растрывожыў*
*Мне матчынай песняй,*
*полем жытнёвым.*
*І родную хату найлепшым палацам*
*Убачыў тады я на шумным*
*праспекце.*
*І вёсачку родную —*
*неперспектыўнай*
*Па нейкіх паперах і нейчых*
*праектах...*
*Дык хто праявіў там такую*
*актыўнасць,*
*Што зараз па-воўчы мне*
*хочацца выць,*
*Што рваўся ў горад на злом*
*галавы*
*І за плячыма пакінуў усё дарагое,*
*Так лёгка расстаўшыся*
*з домам уранні.*
*А думкі сную́ць надакучлівым*
*роем —*
*Што выйшаў няўдалы з мяне*
*гараджанін.*
*А вёска расквечана,*
*вымыта ліўнем...*
*...Няўжо нарадзіўся*
*неперспектыўным?*



Пра сябе і вёску, пра сёння і заўтра вёскі напісаў паэт Іван Рубін. Сёння мы ў прынцыпе маўчым пра неперспектыўнасць вёскі, хаця яшчэ дваццаць гадоў таму і ў прозе аб гэтым, і ў публіцыстыцы, і ў драматургіі, і ў кіно гаварылі нямала. А сёння ўжо і плён тае неперспектыўнасці маем, ды маўчым. Мо таму, што не ўпэўнены ў дзейснасці нашага, пісьменніцкага слова.

Але ж іншага інструмента, як слова, у літаратара няма. Іншага нам не дадзена. І прастора для выкарыстання гэтага інструмента, для прымянення яго ўсё ж такі досыць вялікая. І незалежна ад таго, як і хто матэрыяльна падтрымае прастору літаратурнай працы, слова будзе, павінна працаваць. Дык чаму ж нам са сваім словам, з яго мастацкай і жыццёвай сілай не ісці ў вёску? Яе складанае жыццё (як і лепшых, так і горшых калгасаў, быццё пенсіянераў і кволыя парасткі гаспадарання фермераў-аднаасобнікаў) — прадмет нашага разгляду, даследавання, занатоўвання для дня заўтрашняга. Заставацца безуважнымі, не бачыць таго, што робіцца вакол нас, пісьменнікаў — як тады жыць?! У Льва Талстога ёсць трактат "Дык што ж нам рабіць?" Чытаем: "Філосаф і мастак ніколі не будзе спакойна сядзець на алімпійскіх вышынях... Ён заўсёды, вечна ў трывозе і хваляванні: ён мог вырашыць і сказаць тое, што дало б людзям дабро, пазбавіла б іх ад пакутаў, дало б суцяшэнне, а ён не так сказаў, не так адлюстраваў, як трэба, ён зусім не рашыў і не сказаў, а заўтра, магчыма, будзе позна — ён памрэ... Гладкіх, сытых і самазадаволеных філосафаў і мастакоў не бывае".

А мо раптам (ёсць жа ў мастакоў слова і права на фантазію, права на філасофскае спадзяванне, заснаванае на прагматычным жаданні жыць у аптымізме, з надзеяй і верай на лепшае), агледзеўшы высокую рэчаіснасць, літаратура пачне змагацца за яе ратаванне. Беларускія ж пісьменнікі ў сваёй пераважнай большасці адтуль — з вёскі. І яны, прызнаем, у даўгу перад вёскай, у бясконцым даўгу. Сацыяльны пафас, гістарычны аптымізм — і яны патрэбныя зараз у нашых творах, неабходныя для збліжэння нашага слова з народам. Няўжо дарэмна і няўжо без гэтага, без веры ў лепшы лёс свайго народа, сваіх землякоў пісаў свае раманы Іван Мележ? Не літаратура ж для літаратуры?..

Мы зараз дружна забыліся на савецкую літаратуру. У шэрагу выпадкаў забыліся аб'ектыўна. Раманы Галіны Нікалаевай, многія творы Усевалада Кочатава, Пятра Паўленкі, Леаніда Собалева... Але ж як шмат у той, савецкай, літаратуры, выразна-адметнага. Размова не толькі пра раманы, аповесці таго часу, якія ўскалыхнулі свет. Сярод забытых (мо нават забытых у самой Расіі) — і раман Усевалада Іванова "Падарожжа ў краіну, якой яшчэ няма". Раман, які поруч з героікай працоўных будняў распавядаў пра бачанне перспектыў, пра заўтрашняе развіццё жыцця. Скажаце, утопія, маўляў, дарэмная трата пісьменніцкага і тым больш чытацкага часу. Але хіба не ўтопія, хіба не сацыяльныя фантазіі, заснаваныя на крытычным разглядзе рэальнага жыцця, зрушвалі з месца, вялі да прагрэсіўных змен, давалі чалавецтву, грамадству шанц на змены?..

У лістападзе 1927 года Аляксей Максімавіч Горкі піша з Сарэнта Усеваладу Іванаву: "Вельмі здзіўлены Вашымі словамі: "балюча, цяжка зразумець і паверыць, што рускі мужык не хрысціянін, не кроткі божы служка, а рамантычны бандыт". Не чакаў, што Вы можаце так думаць і што для Вас прымальная літаратурная ідэалізацыя народнікамі сялянства. Я гэтым ніколі не хварэў, хаця мяне народнікі настойліва выхоўвалі менавіта ў гэтым накірунку. Больш таго, — я ўвогуле арганічна не разумею, як можна ідэалізаваць нацыю, масу, клас... Акрамя таго, я ведаю, што зерне перцу энергічней жмені маку". Дык і мастацкае светаасэнсаванне вёскі — у прозе, паэзіі, драматургіі, найперш у публіцыстыцы — патрабуе ад літаратараў якраз "зерня перцу", патрабуе мастацкага ўмяшання ў жыццё настолькі, наколькі складаным і праблемным сталася гэта наша жыццё.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»



**прымае да разгляду:**
***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл. 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірнiцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.

## літаратурны квартал

Суполка маладых творцаў "Літаратурны квартал", якая была створана пры газеце "Літаратура і мастацтва" два месяцы таму назад, працягвае свае пасяджэнні.

30 студзеня на агульнае абмеркаванне была прапанавана падборка новых вершаў Таццяны Барысюк, якая, дарэчы, ужо з'яўляецца аўтарам кніжкі паэзіі "Аўтапартрэт". З грунтоўнымі аглядамі творчасці Т. Барысюк выступілі Сяргей Патаранскі, Наталля Дзянісава і Наталля Кучмель. Імі было адзначана, што прапанаваныя вершы для разгляду сведчаць пра тое, што ў беларускую літаратуру ідзе паэтка са сваім паэтычным голасам і бачаннем свету і нас у гэтым свеце. У абмеркаванні, якое адбывалася ў форме дыскусіі, прынялі ўдзел Алена Багамолава, Аксана Спрынчан, Святлана Кананові́ч, Віка Трэнас, Павел Астравух, Сяргей Гуркоў і Віктар Іваноў. Было прынята калегіяльнае рашэнне, падтрыманае кіраўніком суполкі Людмілай Рублеўскай і галоўным рэдактарам "ЛіМа" Віктарам Шніпам, што, калі аўтарка, Таццяна Барысюк, улічыць крытычныя заўвагі, падборка яе вершаў будзе рэкамендавана да друку асобнай публікацыяй на старонках "ЛіМа".

Прысутныя чыталі свае новыя творы, разважалі на тэмы літаратурнага жыцця. Для абмеркавання на адным з наступных пасяджэнняў "Літаратурнага квартала" прапанаваў свае творы Сяргей Патаранскі.

Суполка маладых творцаў "Літаратурны квартал" збіраецца кожны чацвер а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва".

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**



**Аляксей ДУДАРАЎ**

# ЭХ, МІША...

Цяжка і складана казаць што-небудзь наўздагон. Тым больш, калі ёсць што сказаць. Тым больш пра асобу неардынарную, актыўную, няўрымслівую, таленавітую. Як па творчасці, так і па жыцці.

Міша Пташук...

Ён уварваўся ў беларускі кінематограф на пачатку 70-х, адразу заняў у ім сваё месца і наступнае трыццацігоддзе пашыраў і замацоўваў яго. Працай. Творчасцю. Пошукам. Актыўнасцю. Вечным неспакоем. У яго ніколі не было таптання на месцы, ён не зведаў больш-менш значных творчых паўз, якія здараюцца ў сур'ёзных мастакоў і якія перажываюцца балюча. Гэта адбывалася, мабыць, таму, што ён ніколі не шкадаваў сваёй працы, свайго часу, сваёй фантазіі, свайго жыцця. Ён загараўся нейкай ідэяй і адразу ж без усялякага праектавання пачынаў яе ажыццяўляць, закладваць падмурак, узводзіць сцены, марыць і бясконца захоплена гаварыць пра тое, якім будзе будучы будынак. І калі гэтая бурлівая плынь па аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычынах раптам натыкалася на перашкоду, на плаціну... гэта яго зусім не бянтэжыла (ва ўсялякім выпадку знешне), ён адразу загараўся нейкімі іншымі планамі і праектамі. З гэткай жа, калі не большай, зацікаўленасцю і імпэтам.

Ніякая, нават самая буйная, фантазія не здольная ўявіць Міхася Пташука хоць на кароткае імгненне супакоеным, сузіральным, расслабленым, абыякавым ці проста задаволеным.

Не. Ён заўжды некуды бег, ехаў, ляцеў, удзельнічаў, спрачаўся, тэлефанаваў, даказваў, захапляўся.

Захапляцца ён умеў. Усім захапляўся. І якую б адзнаку каму не ставіў, заўсёды дадаваў плюс. І мастакам, і пісьменнікам, і акцёрам, і сваім калегам-рэжысёрам. Ды і проста людзям. Ад шчодрасці душы.

«Край мой...» — так пачынаецца сусветна вядомы твор Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Здаецца, у 1993 годзе я напісаў паводле гэтай паэмы інсцэніроўку для Тэатра юнага гледача. Неяк пачытаў яе Міхасю. Ён адразу ж пацягнуў мяне ў рэстаран гасцініцы «Мінск», дзе мы некалькі гадзін гаварылі пра Рагнеду і Уладзіміра, пра Вялікае Княства Літоўскае... Пра Беларусь гаварылі.

— Ты ведаеш, — гаворыць Міхась, — калі ты пачаў чытаць, з першых двух слоў у мяне мурашкі па скуры забегалі... Край мой!!! Кра-ай мой!

— Гэта Гусоўскі...

— Якая розніца!

Менавіта тады, за столікам у рэстаране гасцініцы «Мінск» на шостым паверсе, і з'явілася ідэя стварэння фільма пра князя Вітаўта, які ў паэме Гусоўскага і ў інсцэніроўцы толькі ўзгадваўся.

Потым была п'еса.

Потым сумесная праца над сцэнарыем.

Потым самыя высокія ацэнкі экспертнага савета Міністэрства культуры.

Усё ішло да запуску. Во-во! І раптам — стоп! Плаціна.Як падмяніілі ўсіх.

Фільм «про какого-то Витовта» вырашана было не здымаць.

Гісторыя нашай Беларусі і цяпер яшчэ шмат кім успрымаецца як «махровый национализм». Вы думаеце, Пташук засмуціўся? Разгубіўся? Паддаўся дэпрэсіі? Дулю з макам!

— Рана ці позна, я ўсё адно гэта здыму! — заявіў ён.

Або:

— Рана ці позна гэты фільм будзе зняты!

Як ён сказаў дакладна, я не памятаю. На жаль, няўмольны час і самая галоўная таямніца — жыццё пакінулі толькі другі варыянт.

На яго пяцідзесяцігадовы юбілей я зрыфмаваў, выкарыстоўваючы назвы яго фільмаў, такія радкі:

*Не мужык, а «Браняпоезд»,*
*Што ж тут зробіш —*
*«Выбраў час»,*
*І не спыніш, не дагоніш,*
*Болей бы такіх вось нас.*

На хаўтуры ў Доме афіцэраў я ледзьве паспеў. Справы.

На памінкі не змог пайсці. Справы.

І на саракавінах не быў. Справы.

Можа, з гэтай прычыны і не адчуваю, што паміж намі цяпер нябёсы, і ўсё чакаю, што недзе на праспекце ці ў калідорах кінастудыі сутыкнуся з імклівай і магутнай постаццю Пташука. Ён страсяне мядзяная чупрынай, абцярушанай лёгкім інеем, засмяецца і тут жа пачне расказваць, абмяркоўваць, прапаноўваць, дзяліцца.

Эх, Міша...

**Мікалай БУРЛЯЕЎ,**

**народны артыст Расіі, прэзідэнт кінафестывалю "Залаты Віцязь"**

# АПОШНЯЕ МІРАПАМАЗАННЕ МІХАІЛА ПТАШУКА

Калі чалавек памірае, ён пакідае ў памяці людзей адчуванне сваёй боскай сутнасці.

Адбітак сутнасці Міхаіла Пташука захаваўся ўва мне на апошнім мірапамазанні ў Косаве, у Дзечанскім манастыры, за месяц да ягонага трагічнага развітання з жыццём.

Доўгія гады я ўспрымаў Міхаіла пасяброўску павярхова. Ды ці магло быць інакш...

Мы былі знаёмыя з 1966 года, з часоў паралельнага навучання ў тэатральным вучылішчы імя Шчукіна. Ён вучыўся на рэжысёрскім, я — на акцёрскім. Сустракаліся ў калідорах, у буфеце, на публічных іспытах па прафесійных дысцыплінах. Я, чалавек па сваёй прыродзе негаваркі, адразу вылучыў і запомніў Міхаіла Пташука. Яго нельга было не заўважыць: і тады ён ужо быў вялікі, шумны, вясёлы.

Міналіся гады, і мы з ім нечакана сутыкнуліся на адным з Усесаюзных кінафестываляў, дзе фільм беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука "Знак бяды" быў адзначаны высокай прэміяй.

Скажу шчыра, тады я парадаваўся за аднакашніка і прыемна здзівіўся таму, што тэатральна-накіраваны шчукінец бліснуў у кіно, аднак я не надаў гэтаму выпадку вялікага значэння, тым больш, што фільма ягонага я не бачыў. А прызнанне таго ці іншага кінарэжысёра ў тыя гады для мяне, выхаванца Андрэя Таркоўскага, было не простай справай.

Праляцела яшчэ некалькі гадоў. Прозвішча Міхаіла Пташука ўсё часцей з'яўлялася ў рэпертуарнай панараме беларускага кіно, што сведчыла пра тое, што яго пачынаюць прызнаваць адным з вядучых беларускіх рэжысёраў. Фундаментальнымі нашы адносіны сталі з 1990 года, калі я быў запрошаны на "Беларусьфільм" для пастаноўкі фільма "Усё наперадзе".

З цеплынёй згадваю легендарную, пахатняму родную студыйную лазню, у якой збіралася сяброўскі-супярэчлівае ядро "Беларусьфільма": Віктар Тураў, Міхаіл Пташук, Уладзімір Гасцюхін... Тут усе творчыя супярэчнасці высвятляліся па-мужчынску — крутой парай, сяброўскім венікам і братэрскім застоллем. Памятаю, наколькі кранальна-ўважлівым і сардэчным быў да мяне, студыйнага наваабранца, Міхаіл. Я бачыў, як шчыра ён жадае поспеху майму беларускаму дэбюту.

А праз два гады нарадзіўся усеславянскі кінафорум "Залаты Віцязь", і я запрасіў Міхаіла з яго "Кааператывам палітбюро" на фестываль, які праходзіў у Тыраспалі. Ён з радасцю прыняў запрашэнне, прыехаў у Прыднястроўе і атрымаў наш галоўны прыз. З таго часу нашы адносіны мацнелі з году ў год. Мы разумелі, што ў нас агульныя шлях. Міхаіл казаў мне, што часцінка ягонага сэрца назаўжды з "Залатым Віцязем", што для яго гэта дастойны, духоўны і светлы фестываль.

Праз год да мяне дайшлі чуткі пра тое, што Міхаіла ў Мінску закруцілі віхуры "дэмакратычных" антымаскоўскіх плыняў. Я адмаўляўся верыць у гэта. У маёй свядомасці ан'як не змяшчалася, што Міхаіл Пташук, настолькі кроўна звязаны з Масквой і Расіяй, можа пайсці па такой дарозе.

Я запрасіў Міхаіла на фестываль у Югаславію. Але ні там, ні дзе-небудзь у іншым месцы мы ніколі не гаварылі пра гэтыя чуткі. Не было неабходнасці. Міхаіл заставаўся ранейшым Міхаілам — чалавекам, які катэгарычна не ўспрымаў распаду Саюза і тусовак кіношнікаў-псеўдадэмакратаў, якія ён наведваў.

Так здарылася і ў 2000 годзе. Я запрасіў Міхаіла са "Жніўнем 44-га..." на фестываль у Маскву, але дарогу мне ў гасцінна-правакацыйны метад гаспадара: "Чарка не павінна быць поўнай, але і не павінна быць пустой!.."

Міхаіл, падобны на вялікае, шумлівае дзіця, шмат смяяўся, жартаваў, піў піва, сербскую ракію і чырвоны чарнагорскі "Вранац", спазнаваў апетытную сербскую кухню на грыле і ад усяго сэрца цешыўся кожным імгненнем свайго югаслаўскага быцця. Было бачна, што тут яму даспадобы.

Як абяцаў, на наступны год я паставіў "У жніўні 44-га..." на конкурс "Залатога Віцязя", але Міхаіл быў заняты здымкамі новага амерыканскага фільма і не здолеў вырвацца з кабальнага працоўнага графіка і прадставіць свой фільм у Тамбове.

Міжнароднае журы прысудзіла "Жніўню"... Гран Пры. Шыкоўны Віцязь не трапіў у Мінск, да Міхаіла. Тады мы вырашылі адліць яшчэ адзін дублікат Гран Пры і ўручыць яго асабіста Міхаілу на віцебскім "Славянскім базары" ў рамках дня "Залатога Віцязя". Па тэхналогіі мы не паспелі хутка вырабіць новы прыз, аднак, каб не адмяняць урачыстай цырымоніі ўручэння, пазычылі аналагічны Гран Пры ў мінулагодняга прызёра "Залатога Віцязя" Мікіты Міхалкова.



які ўжо раз перайшоў Марк Рудзінштэйн, які завабіў Міхаіла на "Кінатаўр" у Сочы.

Я патэлефанаваў Міхаілу, пажадаў яму поспеху, сказаў, што запрашу ягоны фільм на "Залаты Віцязь" у наступным годзе, а пакуль прапанаваў яму адразу ж пасля Сочы ляцець са мной у Югаславію на рэха "Залатога Віцязя". Ён не вагаючыся пагадзіўся і адразу ж пасля закрыцця сочынскага фестывалю прыляцеў у Маскву, стралою перакінуўся з Дамадзедава ў Шарамецьева, нейкім цудам не спазніўся на рэйс у Белград. Мы абняліся, як быццам нічога і не было, я пазнаёміў яго з маім старэйшым сынам Іванам.

І зноў мы правялі разам светлыя дні ў Югаславіі, у гарадку Пожыге, сярод дарагіх нашаму сэрцу сяброў-сербаў — сцэнарыста Йована Марковіча і актрысы Іваны Жыган. Згадвалі, як Міхаіл і яго гасцінная жонка Ліля ў Мінску забралі ад мяне "на гадзінку"да сябе ў госці Йована Марковіча і вярнулі яго праз дзве гадзіны, ён ледзь трымаўся на нагах. Йован не мог без гумару ўспамінаць

Я паведаміў Мішу аб сітуацыі, якая склалася, і калі ўручаў яму ў Віцебску Гран Пры, шапнуў: "На, патрымай і вярні Міхалкову..." Пташук, ледзь стрымліваючыся, каб не засмяяцца, падміргнуў і "сыграў на публіку ўдзячнасць".

Неаднаразова на працягу апошніх гадоў Міхаіл паўтараў і мне асабіста, і на сустрэчах са сцэны, і ў інтэрв'ю журналістам пра тое, што ён лічыць "Залаты Віцязь" адным з галоўных кінафестываляў у свеце, кінафорумам высокіх духоўных памкненняў, саборам аднадумцаў.

У хлебасольным доме Пташукоў я пабываў толькі аднойчы, у кастрычніку 2001 года. З маім старэйшым сынам Іванам мы былі гасцямі Мінскага фестывалю "Лістапад", і Міхаіл дамогся таго, каб мы абавязкова пабылі ў яго, казаў, што ў яго ёсць адна важная ідэя і каб я абавязкова прыязджаў з Іванам, музычным талентам якога ён быў даўно зачараваны.

Мы правялі за багатым застоллем цэлых тры гадзіны. І я зразумеў, адкуль у Мішы такая ёмістасць цела і такая невычэрпная крыніца энергіі. Гэта ўсё ад ягонай жонкі Лілі! Больш гасціннай гаспадыні я ў сваім жыцці не бачыў: бясконцыя стравы чаргаваліся на стале, і яна патрабавала абавязкова ўсё паспытаць. Калі ж жонка выходзіла на кухню, Міхаіл з гонарам расхвальваў яе вартасці, казаў, што менавіта яна ў доме — духоўны пачатак сям'і, сваім прыкладам вядзе і яго, грахоўнага, да Храма.

Нарэшце Пташук растлумачыў, якая ў яго з'явілася ідэя, ён прапанаваў паспрабаваць Івану напісаць музыку для яго новага фільма, да запуску якога ён рыхтаваўся на кінастудыі Горкага. Ён сказаў, што хутка сцэнарый будзе падрыхтаваны і ён вышле яго Івану. Прызнаюся, што і я, і Іван былі задаволены такой прапановай, якая сыходзіла ад лепшага рэжысёра беларускага кінематографа.

У сакавіку 2002 года я патэлефанаваў Міхаілу і прапанаваў паехаць са мной у Белград і ў Косава. Не задумваючыся

Міша адказаў: "З табой хоць на край свету".

Асабіста я даўно рваўся ў Косава, каб пабачыць усё на свае вочы. Неадназарова прасіў нашага пасла ў Югаславіі наладзіць мне гэтую паездку, карыстаючыся тым, што мы вучыліся з паслом у адной маскоўскай школе, але атрымліваў адказ, што гэта немагчыма. І вось Івана Жыгон дамовілася аб нашым прыездзе ў Косава сама. Яна таксама звярталася ў Расійскае пасольства, але ні дыпламаты, ні вайскоўцы не хацелі браць адказнасць за нашы жыцці. Тады Івана Жыгон дамовілася, што нас возьмуць пад ахову італьянскія войскі. Івана прасіла, каб я папярэдзіў Міхаіла і трэцяга нашага "добраахвотніка" Дзмітрыя Андрэевіча Дастаеўскага, праўнука вялікага пісьменніка, аб небяспецы будучага падарожжа. Аднак па нейкіх прычынах я не зрабіў гэтага, толькі сказаў Мішу, што паездка гэтая чакаецца незвычайнай і няпростай.

Пакідаючы Маскву, дзе было дастаткова цёпла, і думаючы, што ў Сербіі, як звычайна, будзе яшчэ цяплей, я захапіў толькі скураную куртку. Міхаіл, паглядзеўшы на мяне, зухавата скінуў у Шарамецьеве паліто і пакінуў яго майму памочніку, разам са сцэнарыем новага фільма для майго сына. Пасля 15 градусаў у Маскве Бялград нас сустрэў дзевяціградусным цыклонам. Не горача... З аэрапорта, дзе нас чакала Івана Жыгон, мы адразу паімчаліся ў Чарнагорыю, паколькі роўна ў 24:00 павінны былі знаходзіцца ў вызначаным месцы ў гарах, у нейтральнай зоне паміж Чарнагорыяй і Косава, дзе нас павінен быў чакаць італьянскі канвой з аховай. Ужо ў Чарнагорыі, у манастыры Святога Георгія, у ігумена айца Пятра да нас далучыліся Йован Марковіч, маці Іваны — актрыса Алена Жыгон, кіназнаўца Божыдар Зечэвіч, фатограф і супрацоўніца Міністэрства па справах рэлігіі.

У манастыры тэмпература была +1, церусіў сняжок. Айцец Пётр запрасіў нас на сціплае і хуткае застолле, і мы паехалі далей.

Настрой у Міхаіла быў вельмі добры. Ён зноў у любімай Сербіі, сустрэў дарагіх ягонаму сэрцу людзей, ён безупынна смяяўся, жартаваў, пакепліваў з Дз. Дастаеўскага, гаварыў, не змаўкаючы. Здавалася, ён зусім не ўсведамляў, куды яго закінуў лёс.

Праехалі апошні сербскі блокпост, далей нейтральная зона і — КОСАВА.

Любуючыся снежнай фантасмагорыяй, высвечанай святлом фараў, мы паляцелі па чарнагорскім серпанціне ў невядомасць. Насустрач дарогі — дзесяткі, сотні дальнабойных трэйлераў з кантрабанднымі грузамі, якія прыпаркаваліся на начлег. Нават яны не рызыкавалі рухацца ў Косава ўначы. Наш вадзіцель паходзіў з Дзечанаў, першага косаўскага гарадка, які мы павінны былі наведаць, сказаў, што ўжо тры гады пасля вымушаных уцёкаў не быў на радзіме, што некалькі дзён таму албанцы забілі апошніх двух сербаў у Дзечанах — маці і дачку. Цяпер засталося толькі 30 сербскіх манахаў у Дзечанскім манастыры, якія жывуць пад аховай 600 італьянскіх салдатаў і тры гады не пакідаюць межаў свайго прыстанку. Даведаліся мы і пра інфармацыю, што схавана ад усяго свету: за гэтыя тры гады ў Дзечанах ужо загінуў 21 італьянскі салдат.

Эйфарыя старту нашага югаслаўскага турнэ аціхла, надышоў працэс усведамлення рэальнасці. За бортам машыны — мінус 10. Мы, распранутыя і бяззбройныя, можам спадзявацца хіба на ласку Божую і літасць добрых людзей. Добра, калі нас сустрэнуць добрыя людзі, а калі не?..

Мы ўсё часцей і часцей пазіралі на бартавы гадзіннік: вось ужо 23:55, ці паспеем своечасова? І вось нарэшце ў 00:03 дабраліся да прызначанага месца — невялікай парковачнай пляцоўкі ў гарах. Спазніліся толькі на тры хвіліны...

Італьянскага канвою няма... Не маглі ж яны не пачакаць нас тры хвіліны...

Пагасілі фары... Чакаем... У машыне ціха, за акном апраметная цемра ды свіст завеі... Чакаем 10 хвілін... 30... Вось ужо гадзіна мінула — італьянцаў няма! 1 гадзіна 30 хвілін... І вось з'явілася святло фараў, якое набліжалася ўсё бліжэй і бліжэй. Міхаіл узрадаваўся: "Італьянцы!"

Выявілася, што не яны. Легкавая машына з косаўскімі нумарамі павольна прапплыла ў завеі міма нашых дзвюх машын, паднялася ў гору метраў на дзвесце, развярнулася ў наш бок... пастаяла хвіліны тры і... пад'ехаўшы да нас, стала ззаду нашай машыны. А ў нашай машыны і ў нашага мікраўтобуса — бялградскія нумары, што на кожнага албанца-касавара дзейнічае, як чырвоная ануча на бычка. Пастаяўшы хвілінку, "албанец" зноў паехаў уверх на зыходную пазіцыю.

— Яны нас пасвяць! — сказаў Міхаіл.

— Што такое пасвяць? — спалохана спытала Івана.

— Сочаць за намі, — "суцешыў" яе Міхаіл.

— Вой, мне страшна, — прызналася Івана, — яны бачылі нашы бялградскія нумары.

— Трэба рухацца назад, у Чарнагорыю, — сказаў я сябрам.

Перагаварыўшы з нашымі паплечнікамі ў мікраўтобусе, мы разам сарваліся з месца і на поўным ходзе паімчаліся назад у Чарнагорыю... Аднак нашы прыгоды на гэтым не скончыліся. Праімчаліся паблізу машыны "албанца"... яшчэ 50 метраў і... забуксавалі — галалёд! Мы адрэзаны ад дому.

Я прапанаваў вярнуцца на "месца сустрэчы" і чакаць, спадзеючыся на Гоcпада. Так і зрабілі.

Праз 18 хвілін дарога на Косава зноў асвяцілася святлом фараў, і са снежнай феерыі выкаціліся два бронетранспарцёры і джып. Быццам таці з начы, але для нас як ратаўнікі ў камуфляжы, са снегаверці з'явіліся фігуры двух дзесяткаў італьянскіх салдат. Мы вельмі ўзрадаваліся іхняму з'яўленню, нібыта сваім збавіцелям.

Цікавы парадокс нашага часу: тры гады таму італьянскія войскі прымалі ўдзел у агрэсіі НАТА супраць Югаславіі, а зараз іх гатовы абняць кожны з нас, нават Івана Жыгон, якая так ненавідзіць ворагаў сваёй Радзімы...

Пасля гэтага начнога выпрабавання на мяжы Чарнагорыі і Косава, быццам на мяжы жыцця і смерці, у нейтральнай *паласе памежнага ліхалецця, якое выбіла* ўсіх нас са звыклага паўсядзённага існавання, дазволю выказаць думку, што мы сталі іншымі. Подых рэальнай пагрозы нашаму жыццю здзьмуў увесь наш наносны слой сталічнаканьюнктурнага смецця. Узрадаваўшыся збавіцелям, мы неяк зноў прыціхлі. У Міхаіла, мне здавалася, адбывалася нейкая глыбокая духоўная работа, як быццам ён услухоўваўся ў патаемны голас сваёй душы, можа, углядаўся ў сапраўднае, непазбежнае... А, можа быць, у твары манахаў, падобных на белых анёлаў, якія спраўляюць боскую літургію, падрыхтоўка тленнай плоці да таінства свайго раскрыжавання ў імя Хрыста.

Толькі Бог ведае, чаму мая відэакамера ўвесь час сачыла за ім. Унутрана я пытаўся ў сябе: "Чаму я ўвесь час здымаю Міхаіла, ён жа не кіназорка?" І працягваў углядацца праз вочка камеры ў яго вочы, у яго душу. Вось Міхаіл падыходзіць да святых іконаў, да мошчаў, быццам далучаецца да ісціны, да святу гор, які так завабліваe яго... Вось ён падыходзіць да ігумена Феадосія на міра-памазанне, апошняе ў сваім жыцці. Спыніся, імгненне! Сербскі фатограф адлюстраваў міг праявы гэтай сутнасці. Паглядзіце на гэты фотаздымак яшчэ раз, і вы ўбачыце сапраўднага Міхаіла Мікалаевіча Пташука: тут пакорлівасць, чысціня, тут аголеная патаемная сутнасць раба Божага Міхаіла.

Пасля гэтай літургіі Міхаіл падышоў да мяне і ціха, без экзальтацыі, па-мужчынску сказаў: "Я вельмі ўдзячны табе за гэтую паездку".

Мы праехалі скрозь усё Косава з поўдня на поўнач у армейскім аўтобусе са шчыльна завешанымі вокнамі пад аховай двух бэтээраў і 23 італьянскіх салдатаў (такая рацыя ахоўвала ўсяго толькі дзевяцярых славянаў). Мы ўзіраліся ў пейзажы некалі квітнеючага Косава, зараз ператворанага прыхаднямі ў суцэльны сметнік... бачылі паўразбураныя сербскія дамы, храмы і могілкі... Італьянцы суправаджалі нас моўчкі, у кантакт не ўваходзілі, не дазвалялі рассоўваць шторы да таго часу, пакуль Міхаіл не падпарадкаваў сітуацыю сваёй рэжысёрскай волі і, быццам беларускі ледакол, не ўзламаў той лёд адчужэння, які нас скоўваў. Ён растлумачыў італьянцам, — каго яны ахоўваюць: "Гэта — вялікая сербская актрыса Івана Жыгон. Гэта — рускі акцёр Мікалай Бурляеў, які здымаўся ў "Андрэі Рублёве" Андрэя Таркоўскага. Гэта — праўнук вялікага рускага пісьменніка Дастаеўскага..." У італьянцаў вочы палезлі на лоб. Яны зацікавіліся, зацокалі языкамі. Міхаіл не даваў ім апамятацца, працягваючы сваю міратворчую рэжысуру — дастаў пляшку беларускай гарэлкі і пусціў па руках італьянцаў.

А потым здзіўленыя албанцы на абочынах нашых дарог маглі чуць з ваеннага аўтобуса, што праязджаў міма іх, гукі *італьянскіх, рускіх і сербскіх песняў* і крыкі: "Достоэвскі! Жівелі". Пасля гэтага італьянцы спакойна глядзелі, як мы, парассоўваўшы шторы, здымаем тужлівыя пейзажы акупаванага Косава.

Калі мы развіталіся з нашай аховай у Косаўскай Мітровіцэ, Міхаіл абняў і тройчы пацалаваў кожнага з 23 маладых італьянскіх хлопцаў.

Нашы дарагія гаспадары-сербы вырашылі арганізаваць нам на зваротным шляху ў Бялград суткі бестурботнага адпачынку на гарналыжным курорце, аднак ужо нішто не захапляла некалі бязмежна вясёлага Міхаіла. І думкамі, і душою ён заставаўся там, у раскрыжаваным Косаве.

Калі мы ехалі на машыне адпачываць у горы, а гэта было ў адрозненне ад Чарнагорска-Косаўскага падарожжа не ўночы, а днём, выявілася, што Міхаіл баіцца вышыні. Мы заўважылі, што ён сядзіць, учапіўшыся дзвюма рукамі за спінку пярэдняга сядзення і ненатуральна павярнуўшы галаву направа, у бок гары, каб не бачыць злева ад сябе разяўленай бездані. Нас усіх пацешыў яго дзіцячы спалох, які, здавалася, немагчымы для такога вялікага чалавека.

Калі машына забуксавала і стала, Міхаіл куляй вылецеў з яе і, не паварочваючыся, пайшоў назад, уніз па дарозе. Добра, што і нам трэба было вяртацца ўніз на другі пад'ём, мы дагналі Міхаіла і ледзь угаварылі сесці ў машыну, запэўніўшы, што новая дарога будзе не такой крутой... І потым, калі падымаліся па іншай дарозе, усе ( ужо толькі тэрапеўтычна ) супакойвалі яго: "Мы не высока... Гэта бяспечна... Мы хутка прыедзем..."

Наша нелегальнае, праведзенае ў поўным сакрэце паломніцтва ў Косава закончылася шчасліва. Мы выйшлі з падполля, дабраліся да Бялграда, дзе далі вялікую прэс-канферэнцыю з удзелам трох паслоў — Расіі, Беларусі і Украіны. Інфармацыю аб нашай косаўскай эпапеі распаўсюдзілі ўсе СМІ Югаславіі, Міхаілу надалі званне ганаровага прафесара Кінаакадэміі.

Развітваючыся, мы дамовіліся з Міхаілам, што праз два месяцы, у траўні, ён прыедзе да мяне на XI МКФ "Залаты Віцязь" і ўзначаліць журы, што ён разам са сваімі вучнямі ў Мінску зманціруе з майго відэаматэрыялу фільм пра Косава і мы пакажам яго ў рамках кінафоруму...

Гэтаму не наканавана было спраўдзіцца — праз некалькі дзён пасля вяртання Міхаіла не стала. Фільм аб Косаве, а дакладней, пра Міхаіла Пташука ў Косаве зманціравала на бялградскім тэлебачанні Івана Жыган, і мы паказалі яго на кінафоруме ў дзень памяці нашага сябра Міхаіла Мікалаевіча Пташука.

...Вось яго апошняя літургія і апошняе ў жыцці памазанне.

... Вось яго палымяныя выступленні на застоллі ў Дзечанскім манастыры... у *напалову разбуранай школе Асаяны*... у Прышцінскім універсітэце на адкрыцці кінаклуба "Залатога Віцязя" ў Косаўскай Мітровіцэ.

...Вось ён пытаецца ў італьянскага салдата, паказваючы на навакольныя горы:

— Албанцы нас зараз бачаць?

— Бачаць.

— А стрэліць могуць?

— Могуць.

Міхаіл ацалеў у Косаве, пад прыцэлам снайперскіх вінтовак, але не ўсцярогся ў Маскве...

Жыццё Міхаіла Пташука абарвалася на ўздыху, на ўзлёце. Абарвалася ў той міг, калі, здавалася, лёс так спрыяў яму: ён здымаў фільм за фільмам і загараўся ўсё новымі і новымі планамі, ён стаў вядучым рэжысёрам беларускага кіно, ён меў прызнанне ў Маскве і ў свеце, ён яшчэ шмат зрабіў бы... Але — усе мы пад Богам, і гэты закон адмяніць нельга.

Цяпер нам засталося толькі згадваць гэтага вясёлага вялікага чалавека, глядзець ягоныя цудоўныя фільмы і маліцца ў храмах за спачын светлай душы раба Божага Міхаіла.







*НА ЗДЫМКАХ: Міхаіл ПТАШУК; мірапамазанне ў Сербіі; падчас здымкаў фільмаў "Вазьму твой боль" і "Чорны замак Альшанскі"; сонечны дзень — шчасце для кінарэжысёра.*

**Фота А. МАЦЮША і з архіва Ліліі ПТАШУК.**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**Як заўсёды гасцямі Першага Нацыянальнага канала ў літаратурных праграмах Навума Гальпяровіча "Брама", Святланы Шалімы "Авансцэна", Галіны Шаблінскай "Палітра" і Ірыны Шаўляковай "Сентыментальнае паляванне" будуць ужо вядомыя і маладыя пісьменнікі, размова пойдзе пра з'явы нашага літаратурнага працэсу, пра ўзаемасувязі літаратараў розных краін, будуць прапагандавацца навінкі беларускай літаратуры.**

**У суботу, у 10.45, пра літаратурныя падзеі тыдня пойдзе размова ў "Літаратурным праспекце". А ў 17 гадзін у "жывым" эфіры — традыцыйная сустрэча з паэзіяй. Паэзія знойдзе месца і ў нядзелю. У 21.30 у "Канцэртнай зале". А пасля апоўначы штодзень, акрамя выхадных, — кароткія гісторыі — шэдэўры сусветнай і айчыннай літаратуры.**

**КАНАЛ КУЛЬТУРА**

**"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак—аўторак, у 11.00, чытаем разам старонкі рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у гэты ж час у сераду — праграма М. Прохар "Хранограф", у чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 11 лютага прапануе ўвазе сваіх слухачоў: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, у 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы, гаворка пойдзе пра аповесць Костаса Варналіса "Сапраўдная апалогія Сакрата" (пераклад на беларускую мову М. Бусла). З 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" запрашаем паслухаць радыёдзеянне паводле паэмы Я. Купалы "Яна і я". І напрыканцы "Літаратурнага аўторка" — праграма Г. Шаблінскай "Гаспода", пачатак у 16.10. Госць студыі — паэт У. Мазго (паўтор у суботу, у 10.10).**

**Н. К.**

# КОНКУРС БІБЛІЯТЭКАРАЎ

**У Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэчнай сістэме прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства "Лепшы бібліятэкар 2002 г.", які вызначыў самага лепшага спецыяліста бібліятэчнай справы сярод загадчыкаў і бібліятэкараў раёна.**

**Конкурс праводзіўся ў форме папулярнай гульні "Як стаць мільянерам?".**

**Удзельнікам-канкурсантам было прапанавана адказваць на пытанні: па бібліятэказнаўстве, бібліяграфіі, кнігазнаўстве і літаратуры. Карацей кажучы, па ўсіх тых асноўных галінах ведаў, з якімі яны амаль кожны дзень сустракаюцца на рабоце па абслугоўванні чытачоў.**

**Пераможцай была прызнана бібліятэкар клімавіцкай сельскай бібліятэкі Галіна Уладзіміраўна Война.**

**Сёлета кандыдатура лепшага бібліятэкара 2002 г. па ўзгадненні з райаддзелам культуры будзе прадстаўлена для разгляду ў Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Карскага на штогадовую прэмію Гродзенскага аблвыканкама "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва" для работнікаў культуры і мастацтва Прынямоння.**

**Яўген ЛАПЦЕЎ**



# «У ДУШЫ ЗБАЛЕЛАЙ СПЕЮЦЬ БУРЫ...»

Помню студэнцкі цагляны аднапавярховы інтэрнат на вуліцы Старасла-бадской, якраз насупраць цяперашняга Палаца спорту, праз Свіслач. Пакоі на дзесяць, а то і дваццаць чалавек. Размовы пра літаратуру, культуру, лёс Беларусі. Гэта мы, пяцідзесятнікі з Мінскага педінстытута імя М. Горкага, будучыя настаўнікі-філолагі, спрачаліся, хваляваліся, дзяліліся і скваркай, прывезенай з дому, і чаркай, і — галоўнае — думкамі, перажываннямі, радасцю і болем. Дзеці вёскі, усе мы — Яўген Адамовіч, Аляксей Падаляк, Аркадзь Саўко, Радзімір Буцавіцкі, Толя Майсеенка і я — зведалі пасляваенны голад і холад, перажылі ліхалецце, набіраліся сілаў, спатольвалі прагу ведаў, імкнуліся як хутчэй пайсці на свой хлеб. Мы з ім былі маладзейшыя. Пісалі вершы. Сапернічалі. Ён — "пад Ясеніна", я шукаў сябе ў больш высокай сферы грамадзянскасці. І друкавацца пачаў раней. І першы зборнік выдаў да 40-годдзя. Ён — пазней. Амаль праз два дзесяткі гадоў. І, можа, добра, што так атрымалася...

Трымаю ў руках другую Толеву кніжку — "Навальнічныя вёрсты". Адчуваю "мускулатуру" думкі, літаральна расквечаную вобразамі — мастацкімі дэталямі. Адна з іх б'е мацней другіх па свядомасці, прымушае сэрца ў каторы раз услухоўвацца ў чужы боль, адчуваць яго так, як адчуў і ўбачыў паэт: "Жабрак з мяшком хістаецца ў праходзе, // Працягнута рука, нібы шлагбаум..." Жахліва. Балюча. Выпакутавана яго, мастакоўскім дзяцінствам, юнацтвам, усім нялёгкім жыццём. А таму гэтыя дэталі — заканамернасць, а не выпадковасць у паэтычным свеце сталага аўтара. І следам за адзначанай з'яўляюцца іншыя, не менш балючыя, трапныя, яскравыя, насычаныя, перанасычаныя трагедыйным зместам, натуральныя, абумоўленыя перажытым. Ад гэтага перажытага, страшэнна-пякельнага паэту не выпадае адмаўляцца. Ён бароніць яго парыцарску мужна і аддана. Яму хочацца, каб яно наскрозь прасвяцілася яркімі кропкамі, сцэнкамі, выпадкамі, дзеяннем. Так, залежна ад пастаўленай задачы праўдзівай інтэрпрэтацыі, узрастае значэнне мастацкай дэталі, міні-вобраза ў ліра-эпічнай у цэлым паэзіі Анатоля Майсеенкі. Яна трымаецца на гэтых дэталях, як высакавольтная лінія на магутных слупах-вежах:

*Нясём свае беды, як рыцары —*
*латы,*
*Насустрач — цямрэча, наўзбоч —*
*міражы.*
*О сонца святое, о вецер крылаты,*
*Дакуль будуць нас распінаць*
*на крыжы?*




Учытваемся ў працытаваныя радкі верша "І глуха, і горка / не спіцца начамі..." Адчуваем іх важкасць, сэнсавую шматслойнасць і ўшчыльненасць? Яшчэ як адчуваем! Чаго каштуе адна-адзіная дэталь — нясем бяду, "як рыцары латы". Гэта ж трэба так ведаць гісторыю, філасофію, этыку эпохі Сярэднявечча, рыцарскую адданасць праўдзе, справе, абавязку, любві. Гэта тое ж самае, як панчанкаўскае пра дзяцей вайны, што пакінуць зямлянкі ў мірны дзень і... "Ім здасца самалётам першы бусел", як Броўкава пра восеньскія лісты, якія, "быццам шэрыя шынелі", зямлю прыкрылі ад бяды. Гэта паэзія, вартая ўвагі чытача.

Без трапнага вобраза-дэталі цяжка ўявіць паэзію Анатоля Майсеенкі. І падобнае становішча ці не з'яўляецца вынікам прасейвання рэчаіснасці праз сіта жыццёвага вопыту? Відаць, з'яўляецца. Немалы (насычаны трагічнымі падзеямі галоднага дзяцінства, барацьбой за праўду ў застойны і цяперашні час) вопыт адкінуў лішняе, агульнае, "спрасаваў", ушчыльніў, зрабіў афарыстычным змест ягонай паэзіі:

*Тут бярозы і клёны*
*Асвятляюць мне шлях.*
*Я і сам не зялёны,*
*Я трывогай прапах.*

*Мая радасць і гора,*
*Стань народам, народ!*

*Праз бяздоннае мора*
*Хто знайшоў сабе брод?*

У Анатоля Майсеенкі ранейшае пастаянна "надточваецца" цэласнасцю думкі і перажывання. Прыватнае, трапна-адзінкавае працуе на агульную ідэю

# СПАБОРНІЧАЮЧЫ... З АЛЯКСАНДРАЙ МАРЫНІНАЙ

Каторую кнігу Сяргея Трахімёнка ні возьмеш, можаш не сумнявацца, што наперадзе цябе чакае сустрэча з яркімі, непаўторнымі характарамі, магчымасць даведацца і адчуць, як паводзіць сябе чалавек у экстрэмальных сітуацыях. І, вядома ж, вабіць напружанне дзеяння, нечаканасць сюжэтных паваротаў. Аднак яго новая кніга "Второй уровень", што пабачыла свет у таварыстве з абмежаванай адказнасцю "Асар", вылучаецца нават на фоне іх. Найперш аднайменнай дэтэктыўнай аповесцю, напісанай да таго захапляльна, што тыя, хто добра знаёмы з творчасцю знакамітага сёння расійскага майстра дэтэктыўнага жанру Аляксандры Марыніна, без сумневу могуць сказаць: С. Трахімёнак не толькі смела спаборнічае з ёю, а і шмат у чым абыходзіць яе.

Як таго і вымагае жанр, "Второй уровень" мае інтрыгуючы сюжэт, спружына якога не толькі паволі раскручваецца, а ў асобных выпадках нават здаецца на які б вярнуцца назад, а ў выніку дзеянне набывае яшчэ большую вастрыню. Адметнасць твора і ў тым, што С. Трахімёнак рэальнае ўмела спалучыў з фантастычным, а што галоўны герой адначасова прысутнічае як бы, ў двух прастора-часавых вымярэннях, да заканчэння аповесці можна толькі здагадвацца. І, зразумела, менавіта ў самым канцы яе ўпэўніваешся, хто ж ёсць на самай справе той, хто, замаскіраваўшыся ў асяродку міліцыі, працуе на лютага ў наваколлі бандыта Агніўцава, падначаленыя якога хаваюцца ў тайзе, каб з цягам часу ўцячы за мяжу.

Падзеі, што ўздымаюцца пісьменнікам, аддалены ад нас на некалькі дзесяцігоддзяў: "Шел тысяча девятьсот двадцать пятый от Рождества Христова, и всякое могло случиться в губернском городе Новоникляевске, волею судеб стоящем посредине огромного государства — Союза Советских Социалистических Республик". Тым больш у павятовым горадзе Камінску, куды ў якасці інспектара аддзела крымінальнага вышуку і камандзіруецца губернскім АГПУ галоўны герой аповесці Краеўскі. Задачай яго з'яўляецца не столькі высветліць, хто працуе на Агніўцава, колькі знайсці "часть колчаковского архива, потерянного контрразведкой Верховного Правителя во время отступления", а таксама папулянаяь брыльянты. Але ж гэткімі клопатамі праз свайго агента заняты і сам Агніўцаў.

Пераказваць дэтэктыў — зрабіць благую паслугу будучым чытачам С. Трахімёнка, бо, калі загадзя ведаеш, чым завершыцца дзеянне, знаёміцца з творам няма сэнсу. Іншая рэч — згадка аб асобных эпізодах, што само па сабе здатна толькі павялічыць зацікаўленасць. Не паспявае Краеўскі прыбыць на месца прызначэння, як толькі цудам застаецца ў жывых. Начальнік жа міліцыі, які сустракаў яго, гіне. Краеўскі, а таксама супрацоўнікі камінскай міліцыі спрабуюць разабрацца ў гэтай недарэчнай гібелі і ў рэшце рэшт збіраюцца сустрэцца з конюхам, які ведаў аб усіх ад'ездах загінуўшага і чамусьці не паказваецца на рабоце. Кіруюцца да таго дамоў і даведваюцца, што ён раптам з жонкай жорстка забіты. Пасля адбудзецца яшчэ некалькі нечаканых смярцей і з кожнай з іх Краеўскаму становіцца працаваць усё цяжэй, але ён да свайго не адступаецца, тым больш, што начальнік міліцыі перад сваёй гібеллю паспеў частку архіва і каштоўнасцей перазахаваць.

Аповесць невялікая аб'ёмам, а гэта надае дзеянню яшчэ большы дынамізм. С. Трахімёнак вельмі ашчадна паставіўся да сюжэта твора, пакінуўшы толькі найбольш важнае і істотнае, тое, што добра працуе на мастакоўскую задуму. Калі знаёмішся з асобнымі месцамі, ловіш сябе на думцы, што іншы на месцы аўтара "Второго уровня" пастараўся б больш падрабязней пра ўсё расказаць, але, калі чытаеш твор далей, упэўніваешся: падрабязнасці толькі б зменшылі дынамізм. Сапраўды ўжо: сцісласць— сястра таленту. А яшчэ аповесць, у адрозненне ад твораў гэтага жанру, напісаных іншымі аўтарамі, выйграе сваім глыбокім псіхалагізмам, што дазваляе не толькі з захапленнем сачыць за разгортваннем падзей, а і ўважліва прыглядацца да персанажаў, кожны з якіх па-своему адметны. У першую чаргу, канечне, сам Краеўскі.

Мастакоўская ўдача С. Трахімёнка і вобраз сувязнога, з якім Краеўскі мусіць сустрэцца па прыездзе ў Камінск. Імя і прозвішча гэтага смелага і мужнага чалавека так і застаюцца невядомымі, ён увесь час праходзіць як Дэрвіш. Дый у горадзе пра яго мала ведаюць, толькі гаспадыня кватэры, у якой размясціўся Краеўскі, патлумачыла: Он появился месяц назад вместе с цыганами... Заболел и остался здесь, а цыгане поехали дальше... Наверное, дожидается, когда они поедут обратно..." Але менавіта Дэрвіш стаў тым, хто аказаў галоўнаму герою не толькі вялікую дапамогу ў тым, як дзейнічаць далей, а і стаў для Краеўскага свайго роду духоўным настаўнікам, бо адкрыў вочы яму, маладому яшчэ, на ўсю складанасць прафесіі, якую той выбраў для сябе.

Дэрвіш ведае вельмі шмат, таму што даўно займаецца гэтай рызыкоўнай справай. Ён прызнаецца Краеўскаму: «Ты еще молодой, зеленый, а я, брат, уже перешел ту грань, когда надо о чем-то беспокоиться и за свою жизнь бояться». І канкрэтызуе гэтыя развагі: "Человек не способен долго бояться за свою жизнь, как певец не может долго держаться на высокой ноте. Наступает время, когда он устает бояться, чувства его тупеют и ему становится все равно,

вернасці роднаму краю, яго нялёгкай гісторыі як гісторыі асабістай. Зрошчанасць аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, малога і вялікага — яшчэ адна рыса творчасці мастака. З падобнай зрошчанасці, цэласнасці і вырастаюць сапраўдныя радкі і вядуць за сабой, і прыцягваюць, як магніт, чалавечую ўвагу.

Наступная прывабная рыса паэзіі А. Майсеенкі, якая надае ёй своеасаблівае аблічча, — драматызацыя. Гэта, уласна, паэзія актыўнага дзеяння. Дзейнічаюць не толькі героі твораў, а думкі аўтара, саштурхоўваюцца, збягаюцца і разбягаюцца словы. У працытаваным урыўку 7 дзеясловаў на 8 радкоў. У папярэдняй яму страфе вецер "гуляе, звярэе, шалее". І так амаль у кожным вершы рух, дзеянне, перададзенае і ўзмоцненае словам — важкім, лаканічным, шчырым — узмацняюць, узбуйняюць змест твора, надаюць ім адзнакі пераканальнасці, доказнасці:

*Спавіты асалодай,*
*Пакуль расплата не рване —*
*Шальмуй, жыруй, валодай!*
*("Прастакі").*

Дзеянне згушчаецца (побач з выразнай апісальнасцю) у невялікай паэме "Сірата", і асабліва ў паэме "Мітынг на аўтобусным прыпынку", у якой афармляецца ў дыялогавую форму. Як у драматургічным творы. Гэтая паэма ўяўляе сабой даволі ўдалую спробу паэта даць шматгранны зрэз сённяшняй рэчаіснасці ў кантэксце мінулага і будучыні. Галасы Літаратара і Сына ў ёй зліваюцца ў голас Сумленніка, які бароніць народ і краіну ад змізарнення і смерці, хоча ператварыць невідушчасць у відушчасць, вывесці "сляпы, як крот" (Янка Купала) народ з цемры на святло. Літаратар спрачаецца з Ветэранам і прыходзіць праз расчараванне да высновы, што трэба трымацца, трываць дзеля роднай зямлі, каб не згінуць, як тыя этрускі, каб быць спелым коласам на ёй:

*Мая зямля — і крыж ля хаткі,*
*Бары, рачулкі і пяскі...*
*Мы ўсе, мы ўсе твае зярняткі,*
*Твае тугія каласкі!*

*Няўжо мы знікнем, як этрускі?*
*Душу катуюць і зямлю.*
*Я знаў такія перагрузкі,*
*А гэтай болей не сцярплю!*

Водпаведзь ветэранам, што звоняць "сваімі заслугамі", з'яўляюцца флюгерамі, не зважаюць на заганную палітыку новага часу, дае і Сын — не самы актыўны герой паэмы. Вуснамі гэтага героя прамаўляе суровы ваенны і пасляваенны час:

*Закваскі сталінскай і сілы*
*Вы зналі ўцеху не адну.*
*А мне — дзіравыя бахілы,*
*З маленства — ў плуг і ў барану.*

*Той Курт раскаціста смяяўся,*
*Калі курком ён шчоўк ды шчоўк!*
*А хлопчык млеў і выгінаўся,*
*Круціўся ў лапах, бы ваўчок.*

Сын востра адчувае сапраўдныя і ўяўныя заслугі, параўноўвае (не на карысць ветэранаў) лёс сваіх апанентаў з матчыным, сялянскім, з лёсам жанчыны, якая не звінела сваімі заслугамі, а "Ткала заўжды, і касіла, // Ўпрагалася першая ў плуг", ніколі "адпачынку не мела"). Вынік размовы пра Дабро і Зло, Праўду і Ману падводзіць Літаратар. У заключных словах яго больш апымізму, чым разгубленасці, веры, чым зняверанасці. З'яўляецца вобраз Хаты — сімвала жыцця беларусаў, іх годнасці і сумленнасці, пабудаванай талакой, разам, усімі:

*Нам працаваць, ды больш заўзята,*
*Не ныць, як бабка ці дзяўчо.*
*Мы пабудуем нашу Хату...*
*Падстаў плячо, падстаў плячо!*

*Сябры! Расчысцім зноў пляцоўку,*
*Што продак мой і твой збярог.*
*Я не магу знайсці канцоўку:*
*Сплывае Шар Зямны з-пад ног...*

Адзвінелі гады. Адляцелі, як птушкі, у вырай. Зараслі сцежкі мінулыя. Чорны цень — над будучымі. Ды застаецца Слова. Купалава, Танкава, Панчанкава. І яго — Анатоля Майсеенкі. Хай не на ажыўленым тракце, а на вузкай сцяжынцы. Важна, што гэта — яго сцяжынка, з яго словам. Што голас ягоны ручайком зліваецца з шматгалоссем плыні беларускай паэзіі.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

---

будет он жить или погибнет. Это первый уровень. Затем наступает второй, и человек, уставший от отупения и равнодушия, начинает искать смерти, потому что смерть для него — избавление".

Краеўскі "пройдзе" праз два ўзроўні, а наблізіўшыся да другога, усё ж не стане сляпым выканаўцам загаду, атрыманага перад гэтай камандзіроўкай, а паранейшаму будзе дзейнічаць так, як падказвае яму сумленне. І ў гэтым перавага героя С. Трахімёнка перад тымі "рыцарями без страха и упрека", якія па волі асобных аўтараў ператвараюцца ў нейкіх робатаў, што не задумваюцца сеюць смерць, абы толькі дасягнуць пастаўленай мэты. Краеўскі — найперш чалавек, а пасля ўжо супрацоўнік АГПУ. Але адно другому не супярэчыць, бо людзі, падобныя Краеўскаму, ніколі не бываюць сляпымі выканаўцамі. І ў гэтым праяўляюцца моцныя чалавеказнаўчыя, гуманістычныя аспекты дэтэктыўнай аповесці С. Трахімёнка.

Выраз "другой уровень" набывае іншы сэнс, калі знаёмішся з апавяданнямі, а гэта больш як дваццаць твораў "малога" жанру. Яны — рэалістычныя, адлюстроўваюць розныя моманты жыцця. Да іх падыходзіць тое, што С. Трахімёнак прамаўляе ў пачатку "Рассказа о душе": "...Его Величество случай... — автор всего, что происходит на белом и не белом свете".

Сапраўды, персанажы большасці апавяданняў сустракаюцца выпадкова, але гэта для іх не праходзіць бясследна, кожны атрымлівае пасля сустрэчы для сябе нейкі ўрок. Чытачу ж з'яўляецца мажлівасць лішні раз пераканацца, наколькі шматстайнае ў сваёй сутнасці жыццё, як з малога ўзнікае вялікае, а чалавек нават падчас мімалётнай гутаркі можа раскрыцца многімі гранямі свайго таленту. Гэтым разам С. Трахімёнак паўстае перад чытачом, калі можна так сказаць, "во втором уровне", заяўляючы аб сабе як аб майстры звычайнай, а не дэтэктыўнай прозы, здавалася б, куды бліжэйшай яму з пункту гледжання ягонай прафесіі: як вядома, С. Трахімёнак — палкоўнік, кандыдат юрыдычных навук, працаваў у органах дзяржаўнай бяспекі.

На першы погляд у апавяданнях нічога незвычайнага. У "Деле лейтенанта Прилагина" ў цягніку выпадкова сустракаюцца двое пасажыраў, якія належаць да розных пакаленняў... У тым жа "Рассказе..." — таксама нечаканая сустрэча, толькі на поўдні, у час адпачынку... У апавяданні "К нехватке автобусов" — зноў жа поўдзень, чарга за білетамі... "Скверная история" — пра чалавека, які, пабіты хуліганам, знаходзіць у сабе сілы захаваць пачуццё годнасці і мае намер з цягам часу адпомсціць свайму крыўдзіцелю. У апавяданні...

Ды каторае ні возьмеш, сюжэт асаблівай арыгінальнасцю не вызначаецца (за выключэннем хіба "повествования в письмах" пад назвай "Новейший Декамерон", у якім вор-індывідуаліст, як сам ён пра сябе гаворыць, Анатоль Крылоў у рэшце рэшт знаходзіць давер у сумленнай жанчыны і па выхадзе на волю збіраецца пакарыстацца яе дабратой, у сапраўднасці не жадаючы мяняць свае схільнасці. Але чытаеш гэтыя творы і атрымліваеш эстэтычнае задавальненне, бо проза С. Трахімёнка — гэта проза самога жыцця. У розных яго праявах. Ад сітуацый драматычных у сваёй сутнасці да чулліва-засяроджаных, як, для прыкладу, у апавяданні "Цвела черемуха", герой якога перажывае сустрэчу са сваім колішнім, яшчэ школьным, каханнем і ўпэўніваецца, што мінулае назад не вярнуць. Дый патрэбы ў такім вяртанні няма. Жыццё не стаіць на месцы, мяняецца і абнаўляецца. Мяняюцца і людзі. І ён зусім не той, як дваццаць гадоў назад. Непазнавальна змянілася і яго былая каханая, без якой некалі свету не бачыў.

Канечне, падобная прывязанасць да дакументальнай асновы, а правільней, мабыць, свайго роду "спісванне з натуры" тоіць у сабе і небяспеку пэўнай сцэнаграфічнасці, але ў асноўным С. Трахімёнак гэтага паспяхова пазбягае. Праўда, часам адчуваецца пэўная шматслоўнасць, не стае кампактнасці. Але зноў жа выратоўвае ўменне аўтара выпісваць характары, а яшчэ знаходзіць тую інтанацыю, якая пераконвае, што трэба толькі быць здатным належным чынам убачыць чалавека і ён абавязкова раскрыецца перад табой чымсьці адметным.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

---

**НАДРУКАВАНА Ў "ПОЛЫМІ"**

# РАЗДАРОЖАНЫ СУЧАСНІК

***Якім павінен быць сучасны літаратурны герой? Адказ на гэтае даволі спрэчнае пытанне хвалявае не адно пакаленне крытыкаў, літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў (іх, думаецца, у апошнюю чаргу).***

***Сучасны літаратурны герой не абавязаны быць кімсьці. Ён такі, які ёсць у сапраўднасці — у жыцці. Не варта з яго "майстраваць" нешта нестандартнае, адыёзнае, надуманае. Трэба браць той "матэрыял", што знаходзіцца побач, і "неабгабляваным" выкарыстоўваць у сваіх творчых мэтах.***

Так, прынамсі, зрабіў Анатоль Казлоў у аповесці "Раздарожаны саракоўнік", апублікаванай у №№ 11-12 часопіса "Полымя" за 2002 год. Перад намі сучаснік без усялякіх "бразгалак", з натуры, так бы мовіць. Сапраўднае ўвасабленне духоўнага крызісу, у якім апынулася чалавецтва і аўтар твора ў прыватнасці. Чаму аўтар? Проста пры чытанні аповесці усплылі яго біяграфічныя даныя. Міжволі. Нарадзіўся ў 1962...Якраз сорак гадоў — саракоўнік. Як і галоўны персанаж твора Антон Яновіч.

Не я выдумаў: для чалавека ў пэўны момант ягонага жыцця настае час своеасаблівага одуму. Звароту да вытокаў. Калі разумееш, што палова зямной дарогі ўжо пройдзена. Можа быць, не так, як хацелася б. Тады пачынаеш шукаць прычыны, капацца ў мінулым — і ўрэшце ўсё роўна супакойваешся, зразумеўшы марнасць "самааналізу". Нічога ж не вернеш! Можна толькі далей жыць па-іншаму. А ці можна так насамрэч?..

...Твор пачынаецца з апісання ссохлага за адну ноч вяза — сімвала жыцця, у якім нешта сапсавалася, што і прывяло да сумнага фіналу: "Вяз змарнеў, счэзнуў так, як паміраюць улюбёныя Богам людзі, — ціха. Ноччу і сам-насам. Адзінока. Нікога не даймаючы і без дакукі вакольным... (...) Колькі сябе помніў Антон, столькі і гэтае дрэва шумела сваім багатым голлем каля іх хаты. Гэта быў сімвал трываласці роду Яновічаў. Своеасаблівым абярэгам. А цяпер Антону падалося, што вяз ператварыўся ў маўклівую пачвару. Маўклівую, непадступную і абыякавую да ўсяго і ўсіх". Нібы чалавек, які прайшоў усе "кругі пекла" і якому ўжо няма чаго (каго?) губляць...

Аповесць да максімуму насычана філасофскімі развагамі. Герой твора імкнецца пранікнуць у таямніцы светабудовы, разгадаць законы, па якіх рухаецца свет, цячэ жыццё. і, зразумела, ніякай ісціны не знаходзіць, заблытваецца яшчэ больш: "Пнешся, пакутуеш, перажываеш, не спіш начамі, усё некуды бяжыш, нешта даганяеш... І ўсё без радасці, без крупінкі сардэчнага заспакаення. Дыхавіцу падпірае ад напругі, сівееш не ад гадоў, а хутчэй ад дурасці. Хочацца схапіць жыццё аберуч, падпарадкаваць сабе і ўладарыць ім. Аж не, не тут-та было. Яно, жыццё, любіць волю і само бярэ ў заклад нас. Не жыццё — раб, а мы вечныя ягоныя парабкі. Вяз гэта зразумеў і ссох. Зразумела адзінокае дрэва. Яно нікуды і ні па што не бегла. Збеглі ад яго тыя, хто заўсёды быў побач. Чалавеку лягчэй сарвацца з месца. Яго не трымаюць карэнні на лапіку зямлі, як трымаюць дрэва".

Ды і сарваўшыся з таго абжытага лапіку, чалавек усё адно асуджаны на адзіноту сярод безаблічнага натоўпу, як пакінуты і забыты ўласным насеннем вяз-бацька...

Кампазіцыя багатай на сімволіку аповесці цалкам адпавядае яе ўнутраным, ідэйным задачам: невялікія раздзелы перамяжоўваюцца з аўтарскімі афарызмамі-выслоўямі, якія па глыбіні думкі не менш ёмістыя:

"У забыцці могуць знаходзіцца не толькі храмы, якія пабудаваны народам, але і сам народ, што будаваў тыя храмы".

"Зайздрасць не заўсёды рухае чалавекам, яна яго, бездапаможнага, часта з'ядае з сярэдзіны. Бедалага нават спачатку і не заўважае гэтага, а калі адчуе, то яна, зайздрасць, ператвараецца ў нянавісць".

"Гавораць, што абсалютныя шчаслівчыкі жывуць у псіхушках. І толькі не буйныя. Можа, яно і так. Пазбаў, Усявышні, ад такога шчасця".

"Хоць раз за жыццё ды трэба наступіць на свой цень".

"У бяздонні вачэй — спыняецца час..."

Горка, што не засвойваем афарызмы тысячагадовай даўнасці, а вымушаны самі ствараць іх, упэўніваючыся ў правільнасці некалі сказанага. Заўсёды чамусьці здаецца, быццам нехта памыліўся, занадта паразумнічаў, а пасля... шкадуем. Не пачулі...

Не варта шукаць у аповесці А. Казлова нейкага прадуманага сюжэта, лагічна пабудаванага ланцужка падзей. Яны ў творы нагадваюць своеасаблівыя выбухі свядомасці, калі нейкі жыццёвы эпізод пракручваецца, як у кіно, з асаблівай павольнасцю свядомаснай "адключкай", пасля чаго наступае імгненнае прабуджэнне, выхад у рэальнасць. Так у творы адбываецца некалькі разоў. Перанос у мінулае... Яно, паяднанае з сучасным, становіцца для героя непераадольнай пакутай у пошуках надзейнага апірышча для стомленай жыццёвымі згрызотамі душы.

"Кожны з нас, людзей, сталее пасвойму, пазнае вакольны сусвет, самога сябе, сваё прызначэнне... Дзеля чаго? Навошта? Чаму так, а не інакш".

Для аўтара вельмі важна прасачыць усе прыступкі сталення свайго персанажа, бо менавіта ў іх хаваецца, на яго думку, прычына сённяшняга раздарожжа, коласаўскіх ростаняў, калі на змену трывалым, здавалася б, ісцінам, прыйшла нявызначанасць, пустэча, безыдэйнасць. Апатыя да самога жыцця. Яго няўхільнае "апарочванне" і "апашленне"...

Таму і заканчваецца твор фактычна нічым. Канцоўка не абазначаная ні ходам самых падзей, ні развагамі персанажа. Аповесць проста абрываецца на чарговай міні-думцы Антона Яновіча, якая нібы ставіць кропку ў адным часавым вымярэнні і распачынае новы віток гэтай гісторыі ў іншым, яшчэ нязведаным і няпройдзеным: "Божа мой, дык мне ж учора споўнілася сорак! Сорак гадкоў я крочу па вечнай зямлі. Раздарожаны ты мой саракоўнік. Нікому нябачная мяжа паміж мінулым і будучым. За гэты час адляцела сорак выраяў. А колькі засталося яшчэ наперадзе?.."

Шлях Антона Яновіча — шлях сучасніка, пазначаны не толькі экзістэнцыяльнымі катэгорыямі сусветнай бяссэнсіцы, страты чагосьці жыццёва неабходнага і важнага, але і ідэяй фолкнераўскага "здрабнення" асобы ў выніку няправільна засвоеных урокаў мінулага, грахоў продкаў, што, на вялікі жаль, спрадвеку працягваецца з пакалення ў пакаленне.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**
**г. Брэст**

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

# ПЕРАКУЛЕНЫ ЧАС

**Менавіта такая назва змяніла рабочую ("Восень у горадзе") у рамане Міхася Южыка. Раман выйшаў напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Тэхнапрынт".**

**Бадай, кожны з літаратараў з цягам часу спрабуе асэнсаваць уласны лёс праз прызму падзей, што адбываліся ў перыяд станаўлення сваёй асобы. Міхасю дасталіся не самыя спрыяльныя часіны.**

**Азірнемся назад, шаноўныя, паспрабуйма дэталёва ўспомніць гады перабудовы! Цяжка, вельмі цяжка... Лёсавызначальныя падзеі адбываліся штодзённа, нават непрадузятыя прагнозы спрэс не збываліся. А мы, закладнікі "перакуленага" часу, глядзелі наперад, шукаючы вачыма святло ў канцы тунеля. Гады напружанага чакання не адкладаліся ў памяці. Пакуль было цёмна, час сапраўды перакуліўся. Але ёсць такая ўласцівасць чалавечай свядомасці: левае можа ўспрымацца правым, правае — левым, верх можа стаць нізам, а ніз — верхам.**

**...Галоўны герой рамана Васіль Сурмач, паэт-пачатковец, — тыповы прадстаўнік сваёй зямлі. Ён як паэт узрос у пераломныя, скрутныя для беларускай нацыі часіны. Яго цяжка назваць станоўчым ці адмоўным героем, бо звычайна ў чалавека самаацэнка завышаная, а людзі ўспрымаюцца па іхніх учынках. У Васіля няма блізкіх па духу людзей, але ёсць людзі, якія яму такімі здаюцца. І гэта таксама хаця і не самая станоўчая, але тыповая рыса творчых (або тых, хто сябе такімі лічыць) людзей.**

**Раман насычаны падзеямі, калізіямі і дыялогамі, напісаны жывой беларускай мовай, да якой Южык вярнуўся адносна нядаўна і якую пераасэнсаваў і засвоіў не толькі на дастаткова высокім узроўні, але і з усімі яе асаблівасцямі. Праўда, неадназначным падаецца ўжыванне героямі рамана беларускіх прыказак, прымавак, прыслоўяў, якія аўтар шчодрай рукой раскідаў па старонках рамана.**

**Пэўную цікавасць выклікаюць аўтарскія разважанні, што пераклікаюцца з думкамі галоўнага героя. І спрэчнасць некаторых думак кампенсуецца іх вобразнасцю і аргументаванасцю. ("...Людзі цяпер не смяюцца і нават не ўсміхаюцца. Яны засяроджаныя, быццам занураныя ў сябе, і таму непрыветлівыя, суровыя. Не раз разважаў Сурмач над асаблівасцямі характару сваіх землякоў і прыйшоў да цвёрдай высновы, што менавіта клімат, а дакладней — рэзкая змена надворных умоў на працягу года робіць асноўны ўплыў на менталітэт тутэйшага люду. Змушаныя пастаянна змагацца за выжыванне — з маразамі, аблажнымі дажджамі, неўрадлівымі землямі, — беларусы вонкава не вельмі вясёлы народ. Чалавек, які без дай прычыны рагоча на вуліцы ці ўсміхаецца ў краме, міжволі выклікае ў беларусаў падазрэнне, калі не раздражненне наогул. (...) Шчыра смяяцца беларус можа адно з прычыны легкадумнай маладосці альбо на добрым падпітку, калі навакольны свет паўстае ў радасна скажоных алкаголем фарбах...")**

**Бясспрэчны талент М. Южыка прагладаецца ў аб'ёмна выпісаных карцінах навакольнага асяроддзя, побыту, у драматычных дыялогах. Ён здолеў спалучыць сучасную і традыцыйную манеру пісьма.**

**Аўтару рамана "Перакулены час" нейкім чынам удалося выхапіць пэўны прамежак таго, не надта помнага часу і адлюстраваць яго дэталёва і больш-менш аб'ектыўна. Няма сумневу, што пакаленне сённяшніх 30-40-гадовых літаратараў яшчэ не раз звернецца да праблематыкі той пары і спробы асэнсавання таго перыяду нашага жыцця. Міхась Южык свой камень у агульны падмурак паклаў.**

**Ю. ГАРБАЧОЎ**

**ПАЭЗІЯ**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



## МУЗА

*Я ні на што не спадзяюся,*
*З мяне таго, што ёсць, даволі.*
*Даўно распісаны ўсе ролі,*
*Даўно запоўнены ўсе лузы.*

*У эпіцэнтры несціхана*
*Кіпіць жыццё,*
*куюцца "бабкі".*
*Прыгод і авантур ахапкі.*
*Калі ж, завошта*
*ў кут загнана?*

*Мне б разагнуць урэшце краты,*
*Турмы уласнае пазбыцца...*
*А Муза, верная сястрыца,*
*Пайшла шукаць, напэўна,*
*брата.*

•

*Ён агаломшыць, ён настане,*
*Суровы час падсумавання.*

*Усе куточкі асвятліць,*
*І зразумееш — нечым крыць.*

*Як той узважыць, раскладзе —*
*Калі, чаму, нашто і дзе.*

*Папросіш літасці, а ён*
*Няўмольным здасца,*
*як праклён...*

## РУІНЫ

*Ці вырасце штосьці*
*на нашых руінах?*
*Адно камяні, арматура і друз.*
*Я воблік былы твой навекі,*
*былому пакіну,*
*Бо сёння ты толькі*
*прытворшчык і хлус.*

*Мяняюцца маскі,*
*мяняюцца ролі,*
*Гатовы мы разам*
*да дзеі другой.*
*Мы лапік адзін*
*даглядалі, палолі,*
*А зараз у кожнага*
*дробненькі, свой.*
*Ніхто сваё "Я", далібог жа,*
*не знае...*
*Кахаць да труны*
*не давалі зарок.*
*Навошта ж мне гэта*
*відушчасць дурная*
*І гэты ў нікуды павернуты*
*зрок?*

•

*Мне пра цябе напамінае*
*Усё, што міла выглядае:*
*І чысты снег, і ліст зялёны,*
*І зорак дзіўныя імёны.*

*Даўно інакшымі мы сталі,*
*Бо іх сумесна прачыталі...*

•

*Я студняй перасохлаю была —*
*Глыбокаю,*
*а значыць, поўнай тла.*

*Высочвала вачніцамі пустымі*
*Маланкі, і —*
*падманутая імі —*
*Я толькі існавала,*
*не жыла.*
*Зацялася дарэшты,*
*бачыць Бог.*
*І толькі ты, зняверанай, памог...*

•

*Зямля развесненая гэтая —*
*Як сірата неабагрэтая.*

*У смецці, ў леташняй траве*
*Яна ўспамінамі жыве.*

*Не верыцца, што будуць,*
*як заўжды —*
*Хрушчы і пчолы,*
*ліўні і лісты,*
*Стракаты чэрвень,*
*жнівень залаты...*

*Хвала табе, зямны*
*кругазварот*
*З палоскаю сіроцтва*
*пасярод!*

**ІВАН ЛАГВІНОВІЧ**



# НА РАЗДАРОЖЖЫ...

### ДЭПРЭСІЯ

*Не лянуецца дождж, палівае*
*лебяду маю і крапіву,*
*а траву-мураву*
*да зямлі прыбівае.*

*Сёння зноў завітала ў адведкі*
*камсамолка ваенных гадоў;*
*абмінаюць мой дом*
*маладыя суседкі.*

*На канапе ляжу і чытаю,*
*кандыдат летуценных навук;*
*у пакоі павук*
*трэці кут заплятае...*

•

*Засланяю далонямі твар*
*на мяжы паміж лугам і лесам.*
*Сіратлівых лістоў ці не два*
*засталося на каліве лета.*

*Нацянькі па халоднай вадзе,*
*як паранены вой з поля бою,*
*куст каліны насустрач*
*мне йдзе,*
*з акрываўленаю галавою...*

### КАЛІ ВЕРАС ЦВІЦЕ

*Жабраком беспрытульным*
*на судны вярсце,*
*дзе маркота самоты*
*і церняў уколы,*
*не кляні гэты свет,*
*калі верас цвіце*
*і на ім завіхаюцца*
*рупныя пчолы.*

*Торбу старца пакінь*
*у траве пад кустом,*
*над люстэркам крыніцы*
*абліччам схіліся,*
*у галінкі пазычаным*
*чыстым лістом*
*вытры слёзы пакуты,*
*праз боль усміхніся.*

*Пры дарозе тваёй —*
*дзівасіл, чыстацел,*
*а не толькі шыпшына —*
*здзічэлая ружа.*
*На юдольнай вярсце,*
*калі верас цвіце,*
*не страшы сябе будучай*
*лютаўскай сцюжай.*

### АДРЫНУТЫ

*Не праганяйце — здарожанага,*
*скульгавелага, —*
*калі да вогнішча вашага*
*я падыду,*
*скіну з плячэй лахманы,*
*на вятрах задубелыя,*
*каб ахінуў мяне міласцю*
*Жыжаля дух.*

*Жыць як усе, а тым больш мець*
*сям'ю забаронена*
*мне з таго часу, як селішча*
*наша пажар*
*подыхам знішчыў; стаяць*
*з абгарэлымі кронамі*
*дрэвы садовыя, ды галавешкі*
*ляжаць.*

*Першай, на ўзгорачку, хата мая*
*загарэлася*
*ад Перуновай агніста-сляпучай*
*стралы.*
*Спёка смылела. Стрыжэльныя*
*бёрны прагрэліся,*
*дрэвавым потам паблісквалі*
*кроплі смалы.*

*З хмары злавеснае жаднай*
*дажджынкі не крапнула.*
*Вецер сваволіў, ды вусцішны гром*
*грукатаў.*
*І паглынала пачвара —*
*няўмольная, сквапная —*
*хату за хатай, бы дзень ужо*
*судны настаў.*

*Згадваць той жах, каб вы ведалі,*
*як мне не хочацца!..*
*А не пазбыцца дакучнае*
*млосці-тугі.*
*Бабцю глухую й нягеглага,*
*сумнага хлопчыка*
*не ўратавалі — іх душы*
*забралі багі.*

*Хата мая, я казаў ужо, першаю*
*ўспыхнула:*
*справай благою, няйнакш,*
*я ўгнявіў Перуна...*
*Склікалі веча. Мяне за ваколіцу*
*выгналі,*
*на раздарожжа — пакуты*
*жабрацтва спазнаць.*

*Свет не канчаецца за паласой*
*далягляднаю:*
*шмат між балотаў яшчэ*
*не абжытай зямлі!*
*Тую мясціну жрацы абвясцілі*
*праклятаю, —*
*і пагарэльцы на іншую*
*выспу зышлі.*

*Да папялішча вярнуўся*
*я змрочнай часінаю,*
*без гаспадаркі, ізгоем жыву*
*ў будане...*
*Не папракайце пададзенай*
*мне міласцінаю, —*
*хай вас, тутэйшыя, доля*
*такая міне!*

### НЕСЛУХ

*Са мной не спазнаўшы шчасця*
*на сцежках зямной юдолі,*
*Пегас мой, някідкай масці,*
*падаўся да лепшай долі.*

*Параіў мне пастарацца*
*няўдзячную справу кінуць,*
*заняцца грашовай працай,*
*набыць, асядлаць машыну.*

*Аднак я, дзівак і неслух,*
*штодня за сталом пісьмовым*
*сядлаю старое крэсла —*
*гаротную пешчу мову.*

Баранавічы, 2001 г.

**ПРОЗА**

# СКРЫПКА

Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ

Прозвішча майго бацькі Ануфрыя Фёдаравіча было Скрыпко. Ён атрымаў яго ад свайго бацькі, той — ад свайго, дзед ад дзеда, прадзед ад прадзеда... А быў жа некалі той першы, хто не атрымаў яго ад бацькі, а каму гэта прозвішча проста падарылі, прысвоілі. І не выпадкова, а з-за той справы, якой ён шчыра займаўся. Гэта значыць, добра іграў на скрыпцы. І скрыпка ў яго была з тых далёкіх часоў, і дайшла яна цалюткая аж да майго бацькі. Берaглі ў сям'і гэтую рэліквію. Бацька быў самавук у музыцы, але пад яго скрыпачку тупала нагамі моладзь і не толькі моладзь на вясковых вяселлях.

Дайшла чарга да мяне — выявіўся абсалютны слых, і я да вайны вучылася ў музычнай школе пры кансерваторыі і называлася яна школай дараўітых дзяцей. Вядома ж, я іграла на скрыпцы.

Мая скрыпка была з дзіўным моцным гукам, трошачкі ніжэйшым за звычайны голас скрыпкі. Кранеш струну, і яна доўга гучыць, спявае, нібы сама любуецца сваім голасам. Я тады яшчэ не ведала, што кожная добрая скрыпка, як і чалавек, мае свой голас.

Мой настаўнік, студэнт апошняга курса кансерваторыі, дзівіўся гэтаму гуку і прадказваў мне вялікую будучыню скрыпача з гэтай скрыпкай. Была яна цёмная, не блішчэла ці то ад часу, ці то ад якасці дрэва, з якога яе зрабілі. І таксама не ведаю, што за майстар яе стварыў, але гэта быў выдатны твор выдатнага майстра.

22 чэрвеня 1941 г. к 12 гадзінам дня прыйшла я ў апошні раз у музычную школу, каб атрымаць заданне на лета. Настаўнік мой быў нейкі збянтэжаны, сказаў:

— Ігрaй што хочаш, толькі кожны дзень, — і пабег у кабінет дырэктара, бо па радыё павінен быў выступаць Молатаў...

Перацерла, перакруціла, перабылтала лёсы людскія вайна. Усё змянілася ў адначассе.

Скрыпка мая ляжала на шафе ў футарале, накрытая чыстай анучай. Бо ў пакой, дзе мы жылі на Грушаўцы, заходзілі немцы, то адзін, то ўдвух. Яны адчувалі сябе гаспадарамі і ў нашых кватэрах. Заходзілі, нічога не казалі нам, моўчкі аглядалі пакой, адкрывалі шафу, што падабалася — забіралі. І гэтак жа моўчкі выходзілі.

Аднойчы немец адкрыў маленькую каробачку, што стаяла на століку, узяў у рукі маміну брошку: чорны, авальны пляскаты каменьчык у тонкай срэбнай аправе, а пасярэдзіне прымацавана вялікая белая жамчужына. Відаць, сапраўдная жамчужына, бо немец адкалупнуў яе, паклаў у кішэню, а брошку кінуў назад у каробачку. Яна і цяпер у мяне ёсць, тая брошка без жамчужыны.

На скрыпцы я не іграла. Мне здавалася кашчунствам іграць, калі навокал адбываецца такое: усюды гаспадараць фашысты, робяць што хочуць, могуць нават забіць ні за што.

Мне было 14 гадоў, худая, я ўвесь час хацела есці. Аднойчы мая матуля Марыя Адамаўна пазбірала мае і брата рэчы, што нам ужо малыя, перамыла іх, перапрасавала, акуратненька склала, і падгаварыла сваю сяброўку, мастачку Леакадзію Нічыпаровіч пайсці ў вёску выменяць якіх-небудзь прадуктаў.

— Людзі ходзяць, нешта прыносяць, а мы з голаду пухнем.

Я напрасілася пайсці з імі:

— Ты ж адна не прынясеш таго, што выменяеш, а я табе памагу, — даводзіла я матулі.

Дзве малыя дзяўчынкі Леакадзіі засталіся ў нас з маёй бабуляй Мальвінай.

А мы пайшлі, толкам не ведаючы куды. Паход наш ледзь не закончыўся трагічна. Бо калі мы ўжо вярталіся назад, трапілі на немцаў, якія, як я думаю цяпер, ахоўвалі чыгунку. А мы — чужыя. З намі не сталі асабліва разбірацца. На ўсялякі выпадак вырашылі расстраляць. Але афіцэр не хацеў псаваць сабе вячэру, таму нас зачынілі ў нейкім хлеўчуку да раніцы.

Лёдзя, вельмі прыгожая маладая жанчына склала рукі перад тварам і пачала маліцца. Малілася яна шчыра, па-польску, гучна прасіла прабачэння ў сваіх дачушак, што пакідае іх адных на ўсім белым свеце. І плакала.

Неўзабаве дзверы хлеўчука адчыніліся, увайшоў чалавек у нямецкай форме і спытаў па-польску:

— Хто тут ёсць поляк?

— Мы ўсе палякі, — паспяшалася адказаць мая матуля таксама па-польску, бо мову вучыла яшчэ ў школе і ў пашпарце яе сапраўды было напісана "полька". І была, як і Лёдзя, каталічка.

Ён распытаў нас, адкуль мы і як апынуліся тут. Выслухаўшы мамін расказ, спытаў, не зводзячы вачэй з Лёдзі:

— Можна, я скажу, што вы мае знаёмыя?

— Так-так, канечне, — зноў паспешліва адказала мая мама.

— Эрык Патоцкі! — прадставіўся ён, стукнуўшы абцасамі.

— Дык вы граф? — спытала Лёдзя.

— Цяпер чыгуначнік.

Ён пайшоў і хутка вярнуўся з афіцэрам, які загадаў вартаўніку нас адпусціць. Так зусім незнаёмы паляк выратаваў нас ад смерці. І не толькі выратаваў, а яшчэ пасадзіў у цягнік, на якім мы вярнуліся дадому.

Я расказваю гэту гісторыю, бо далейшыя падзеі склаліся так, што перад гэтым графам і яго сябрам, дававенным салістам варшаўскай оперы Вацакам Ілевічам, я вымушана была іграць на скрыпцы.

Вымушана таму, што Лёдзя прыйшла аднойчы да нас з гэтымі двума палякамі.

— Ім хочацца пабыць у сямейнай абстаноўцы, — шапнула яна маме.

Не помню, якім чынам Патоцкі ўбачыў на шафе скрыпічны футарал. Можа таму, што быў высокі?

— О-о-о, у вас скрыпка ёсць? — спытаў ён.

Я ніколі не была выскачкай і хвалько, а тут падумала, калі я не скажу, што вучылася іграць на скрыпцы да вайны, яны падумаюць, што мы абрабавалі якую кватэру і ў нас чужы інструмент.

— Я займалася ў музычнай школе, іграла на скрыпцы, — сказала я.

— Тады сыграй нам.

Ледзь не самлела ад страху. Іграць перад салістам варшаўскай оперы і перад графам — такога я не чакала. Але разумела, што адмовіцца не магу, не маю права. Узяла каніфоль, нацерла смычок, настроіла струны і пачала іграць.

Перaйграла ўсё, што помніла: эцюды, варыяцыі, песні.

А яны ўсё прасілі:

— Ігрaй яшчэ.

Тады я сыграла апошняе, што засталося ў маёй памяці, — гамы, знізу ўверх і зверху ўніз. І сказала:

— Больш нічога не ведаю.

Гэта быў першы і апошні ў маім жыцці міжнародны канцэрт.

Ілевіч з кішэні дастаў камертон, які я бачыла толькі ў свайго настаўніка, і ў пакоі загучала чыстае "ля". І пачаў спяваць арыі з опер. У яго выкананні я ўпершыню пачула арыю з оперы "Галька", якую ён прысвяціў мне, як удзячнасць за маю ігру.

Ведалі мы і далейшы лёс Патоцкага. У сорак трэцім годзе фашысты абвінавацілі яго ў тым, што ён сабраў групу аднадумцаў і дамовіўся з імі ісці ў нашы беларускія партызаны, каб ваяваць супраць фашыстаў. Нехта яго выдаў. Немцы сказалі, што граф звар'яцеў, і адправілі яго ў вар'яцкі дом. Усё гэта, забегшы на хвілінку, расказаў нам Ілевіч:

— Яны яго не выпусцяць. Гэта канец.

Больш мы не бачылі ніколі ні Патоцкага, ні Ілевіча.

Цяпер, успамінаючы ўсё гэта, я зноў думаю аб тым, як перапляла лёсы людзей вайна, як яна звяла іх і як развяла: граф Патоцкі выратаваў ад смерці маю матулю, яе сяброўку і мяне. Сам загінуў у Беларусі. А мой брат Віталь у ліпені сорак чацвёртага застаўся ляжаць у брацкай магіле ў Польшчы, пад Сувалкамі ў вёсцы Вярняйцэ, пахаваны з «отданием воинских почестей», як было напісана ў пахавальнай. Загінуў, вызваляючы ад фашыстаў Польшчу.



З раніцы нічога не гаварыла пра тое, што гэты дзень стане адным з чорных дзён майго жыцця. Ярка свяціла сонца, неба блакітнае, ні воблачка, ні хмурынкі. За вакном цырыкалі вераб'і. Цвіў каштан. Ужо свечкі яго бялелі на фоне зялёнага лісця. Бегалі тралейбусы, звінелі трамваі. Усё было як заўсёды, звычайны дзень. Колькі гадоў, нават дзесяткаў мінула, як скончылася вайна. Мірнае жыццё ў мірным, узнятым з руін горадзе.

Ужо сыны мае былі вялікія. Старэйшы Юра вучыўся ва універсітэце, малодшы Пеця — яшчэ ў мастацкім вучылішчы. З работы прыйшоў Пятро з сябрам Аляксеем. Аляксей да гэтага сто разоў бываў у нас. А тут раптам папрасіў у мяне даць яму скрыпку.

— Я некалі іграў, можа, што ўспомню.

— Калі ласка, — не задумваючыся, што аддаю сямейную рэліквію, адказала я.

І сваімі рукамі аддала яму скрыпку.

Прайшоў час, і не малы, можа год, можа болей. Аляксей скрыпку не вяртаў. Я набралася храбрасці і напомніла яму:

— Аляксей, калі вернеце скрыпку?

— Няхай яшчэ пабудзе ў мяне. Мне так добра на ёй іграецца.

— Ну няхай пабудзе, — згадзілася я.

Зноў паляцелі месяцы. Пры сустрэчах, а яны надараліся ў Саюзе пісьменнікаў, я пачала звяртаць увагу, што Аляксей стаў пазбягаць мяне. Я нічога не разумела. Пакуль мне не растлумачыў Пятро:

— Аляксей даў сыну, Колю, пагуляць са скрыпкай, а той яе паламаў. Ні адзін майстар не бярэцца яе правіць.

— Дык няхай мне паламаную аддасць. Мне ж перад маім бацькам сорамна. Гэта ж яго інструмент.

— Забудзь ты пра тую скрыпку!

— Як гэта "забудзь"?

Ён развёў рукамі:

— Наўрад ці ты яе вернеш.

— Скрыпка перажыла першую сусветную вайну, рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, айчынную. А цяпер жа мірны час.

— Я сказаў тое, што думаю.

Месяцы ўжо зноў складваліся ў гады. У Аляксея клопаты — пераезд на новую кватэру з плошчы Перамогі на Пуліхава. Калі ён уладкаваўся на новым месцы, я яму пазваніла:

— Аляксей, дзе мая скрыпка?

— Галя, не сярдуй, а яе пакінуў у падвале старой кватэры.

— Як гэта пакінулі?

— Хіба табе Пятро не гаварыў, што яна паламаная?

Пазваніла на яго старую кватэру. Трубку ўзяла мая знаёмая Лена. На маё пытанне адказала:

— Ніякай, ні цэлай, ні паламанай скрыпкі ў падвале не было.

Яшчэ бег час, і таксама немалы. Пятро аднойчы сказаў мне:

— Быў у Аляксея, бачыў скрыпку. Сапраўды здорава паламаная.

— Чаму ж ён мне гаварыў няпраўду?

— Ну, такую сорамна аддаваць, а можа, яшчэ спадзяецца знайсці добрага майстра, тады будзе нечаканая радасць.

Ужо я старалася не сустракацца з Аляксеем. Хаця зразумець яго не магла: інтэлігентны, пісьменнік, тонка разумее душу чалавека. І раптам такое...

Адной раніцай Аляксей, як звычайна, прыйшоў на работу. А за яго сталом сядзіць ужо чалавек і кажа:

— Я дырэктар.

Хто такое вытрымае ў салідным ужо ўзросце?

Яго сэрца і здалося. Не стала Аляксея.

Доўга, можа, год, можа болей я ім не званіла, разумела, у яго доме не да мяне. Аднойчы ж не вытрымала і папрасіла да тэлефона Ніну, удаву Аляксея. Спытала пра скрыпку.

— Галя, пра што гаворка. Прыйдзі і забяры.

А ў мяне запаленне лёгкіх. Трапіла ў бальніцу. Пасля бальніцы пазваніла — ніхто не адказаў. Настала лета і ўсе былі на дачы...

Нядаўна я пазваніла сыну Аляксея. Такая адбылася размова:

— Мікалай Аляксеевіч, гэта Васілеўская. Я хацела б забраць сваю скрыпку.

— Ніякай скрыпкі ў нас няма і ніколі не было. Я яе ніколі не бачыў. Навошта нам скрыпка. У нас не музычная сям'я.

— Бацька ваш гаварыў, што гэта вы яе паламалі, а мама ваша гаварыла мне: "Прыйдзі і забяры".

— Пяць гадоў да смерці яна ўжо нікога не пазнавала.

— Як гэта не пазнавала, калі пазнала мяне, па імені назвала, нармальна размаўляла са мною.

Ён трошкі падумаў, потым сказаў:

— На дачы ў шуфлядцы бацькавага пісьмовага стала ляжыць кавалак смычка, паліраваны кавалачак тонкага дрэва. А скрыпкі ніякай не было.

— Значыць, я гавару няпраўду?

Маўчанне.

І я зразумела: ён выкінуў яе на памыйку.

Вось і ўся гісторыя.

Пасля гібелі брата Віці, а потым смерці бацькі — не стала ў нашай сям'і прозвішча Скрыпко.

Не стала і скрыпкі.

А можа, на свеце яе трымала прозвішча?

## НОВЫЯ ПРАЕКТЫ — НОВЫЯ ЗАДУМЫ

**Маладзёвая суполка "Беларуская музычная альтэрнатыва" плённа працуе на ніве папулярызацыі беларускамоўных музычных калектываў, выканаўцаў ды іх твораў. Працягваецца праца над першай зборкай беларускамоўнай рэп-музыкі. Так, гурт "Нестандартны варыянт" сумесна з камандай AQ48 запісалі кавер-версію знакамітага хіта гурта N.R.M. "Паветраны шар". У гэтым запісе прыняў удзел і лідэр N.R.M. Лявон Вольскі, які славіцца прыхільнасцю да самых сучасных музычных навацый ды апрацовак.**

**Маладая каманда "Воцат" прапанавала на гэты дыск таксама кавер — сваю версію беларускай народнай песні "Ой, долам, долам", шырока вядомай у выкананні фолк-мадэрн-гурта "Палац".**

**Акрамя названых рэп-каманд, у выданні зборкі прымуць удзел гурты "Графіці", "Жыццё у слове" і інш.**

**Экстрэмальная старонка ў планах "Беларускай музычнай альтэрнатывы" будзе прадстаўлена працягам знанага фанаграфічнага выдання "Hard life — Heavy music-2", стварэнне якога ідзе ў супрацоўніцтве з "М-часопісам". У выпуску дыска зноў возьме ўдзел галандскі гурт "Third stone", які запісаў для навінкі спецыяльную кампазіцыю і плануе прыняць удзел у гастрольным туры па Беларусі.**

**Яшчэ адной навінкай, якая зацікавіць маладых прыхільнікаў беларускамоўнага рока, стане сольны альбом мінскага гурта "Partyzone" — пераможцы леташняга "Басовішча". Альбом будзе змяшчаць 11 кампазіцый у хардкорд-стылістыцы, жывыя запісы еўрапейскіх канцэртаў беларускага гурта, а таксама відэа-трэк для ўладальнікаў камп'ютэраў.**

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**

## МІЖНАРОДНАЯ СУСТРЭЧА ТЭАТРАЎ

**У Рагачове адбылася міжнародная сустрэча тэатраў мініяцюр пад назвай "Рукой падаць". Удзельнікамі ўрачыстасці смеху сталі студэнцкія тэатры эстрадных мініяцюр — "Хачу" (Украіна, горад Роўна), "ОГУ" (Расія, г. Арол), "Сантэхэлектрамантаж" (Беларусь, г. Гомель) і маладзёжны эстрадны тэатр "МЭТР" (г. Рагачоў).**

**Таленавітыя выступленні тэатральных калектываў парадавалі шматлікіх гледачоў, прынеслі сапраўдную асалоду. А сустрэчы тэатраў стануць у Рагачове традыцыйнымі.**

**Міхась СЛІВА**



**ВЫСТАВЫ**





# МАСТАК З ПАЛЕССЯ

***Лекцыйную залу Нацыянальнай бібліятэкі мінчукі ведаюць яшчэ і як залу выставачную. Зараз у ёй экспануюцца творы мастака з Палесся Васіля Юшкаўца. Ён нарадзіўся ў 1961 годзе ў Янаве Палескім. Мае вышэйшую адукацыю, па прафесіі, традыцыйнай для мясцовага люду — меліяратар. Прафесія добрая, але захапіў хлопца жывапіс. Гэтае захапленне занесла Васіля ў Маскву, ва Усесаюзную народную акадэмію выяўленчага мастацтва, пасля заканчэння якой ён звязаў сябе з мастацтвам на ўсё жыццё. Прынамсі, так ён лічыць сёння.***

На выставе ў Нацыянальнай бібліятэцы прадстаўлены жывапіс і графіка. Відавочна, што вучоба і самастойная творчасць мелі плён. У Васіля Юшкаўца ёсць свая філасофія, сваё бачанне свету. Ёсць у ягоным характары штосьці ад дзядоў і прадзедаў. Адданасць любімай справе і зацятасць у рабоце. Дарэчы, ягоны прадзед быў з так званых лабуроў. Гэтыя людзі, гаворачы сучаснай моваю, былі "здабытчыкамі". Калі абшчына прымала рашэнне ставіць храм, лабуру даручалі знайсці грошы. І ў пошуках сродкаў на справу веры яны іншы раз дабіраліся да Амерыкі. Так што Васілёў прадзед меў магчымасць пабачыць свет.

Васіль таксама вандруе. Некалькі год як мастак працаваў у Польшчы. Але болей вандруе віртуальна, звяртаючыся ў сваіх творах да розных эпох, розных краін.

У стылёвым сэнсе Васіль Юшкавец прыхільнік сюррэалізму. Ягоныя творы сведчаць пра знаёмства з творчасцю Сальвадора Далі і іншых карыфеяў гэтага напрамку. Рэчы і постаці на ягоных палотнах выпісаны ілюзорна. Мастака захапляюць прыгажосць прадметнага свету і магчымасць адлюстраваць яго на палатне. Але рэчы і постаці спалучаюць фантастычныя сюжэты, якія ў кагосьці выцягнуць з памяці страшныя

**ЗНАХОДКІ**

# НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ ЛІЧЫЦЬ СТРАЧАНЫМ

***Адны з музычных твораў выдадзеных у Мінску Аляксандрам Валіцкім, лічыліся незваротна страчанымі, іншыя былі невядомыя нават знаным спецыялістам. Тым часам, маўклівыя сведкі музычнай гісторыі Мінска XIX ст. чакалі свайго вяртання. Натрапіць на след мінскіх нотадрукаў 1860—1862 гг. мне дапамог "Каталог музычных нот, выдадзеных накладам А. Валіцкага ў Мінску". Каталог чамусьці не быў дагэтуль заўважаны ў вядомым выданні 1861 г. аперэты "Канкурэнты" ("Konkurenci"), што захоўвалася ў фондах такіх бібліятэк, як Расійская Нацыянальная ў С.-Пецярбургу, Нацыянальная ў Варшаве, Ягелонская ў Кракаве. Згаданае выданне, надрукаванае ў мінскай літаграфіі Эмерыка Адамовіча, змяшчала толькі вершаваныя тэксты М. Лапіцкага да аперэты. Хаця, паводле сцвярджэння Віктара Скорабагатава, "Канкурэнты" выдавалі і выбранымі музычнымі нумарамі, і асобна як лібрэта. Аляксандр Капілаў выказаў думку, што ноты Ф. Міладоўскага да аперэты "Канкурэнты" ўжо незваротна страчаны.***

Нечаканая знаходка выявілася ў Кракаве, дзе мне пашчасціла натрапіць на менавіта паасобныя выданні нот з вядомай аперэты. Партытурныя нумары "Канкурэнтаў" для фартэпіяна, укладзеныя самім кампазітарам Ф. Міладоўскім, як пазначана на тытульных аркушах, былі выдадзены прадпрыемствам А. Валіцкага ў Мінску, а іх друк ажыццёўлены ў Лейпцыгу (або, як тады яго называлі, у Ліпску), у літаграфіі Карла Родэра, чыімі паслугамі карысталіся і вядучыя варшаўскія выдаўцы. У канкурэнтнай барацьбе ў галіне нотадрукавання выходзілі на першыя месцы менавіта спецыялізаваныя прадпрыемствы, кшталту Карла Родэра ў Лейпцыгу, Гебетнера і Вольфа ў Варшаве, у якіх і аўтарскія ганарары былі даволі высокія, што таксама немалаважна. Вось і А. Валіцкі, скарыстаўшы магчымасць, шэраг падрыхтаваных ім у Мінску музычных твораў надрукаваў у Варшаве — у друкарні-штыхарні Г. Гебетнера і Р. Вольфа, у штыхарні-літаграфіі У. Отта, а найболей у Лейпцыгу — у літаграфіі і друкарні-штыхарні К. Г. Родэра.

Інтэнсіўная нотавыдавецкая праца А. Валіцкага ў Мінску ў 1860—1862 гг. паспрыяла з'яўленню каля 30 назваў музычных твораў Станіслава Манюшкі, Фларыяна Міладоўскага, Вітальда Пшыборы, Адольфа Грунера, Казіміра Лады, Артура Бартэльса. Гэта былі песні, песні з аперэт, полькі, паланезы, мазуркі, кантрдансы, галопы і г.д.

Што да адметнай у свой час аперэты "Канкурэнты", то яна, як знаўчыцца на тытуле кожнага са знойдзеных нотадрукаў, складалася з 22-х вакальных нумароў. Сем з іх: "Куплеты Акці" ("Oj gdy mlodosc sie..."), "Песня Акці" ("Konkurentow ilu wzdycha..."), "Песня і Тэрцыя" ("O nazkart wielkiego wieszcza..."), "Песня Акці" ("Pawel szczerze mi dowoszi..."), "Раманс Акці" ("Zegnam was..."), "Серэнада Эрыка" ("Oktawijo, duszy mojej..."), "Песня Паўла" ("Mówia na nas...") — захоўваюцца ў бібліятэцы Ягелонскага універсітэта. Цяпер іх копіі ёсць і ў Беларусі, а гэта шанц на новае, сучаснае выкананне або выданне.

З "Каталога" А. Валіцкага таксама дазналася, што ў 1861 г. ён рыхтаваў да выдання музычныя творы Артура Бартэльса (з тэкстам паэта Плацыда Янкоўскага) "Абразкі". Папулярнасць у А. Бартэльса, які спачатку жыў у Вільні, а пазней у Варшаве і Кракаве, была шырокая — як у "сатырыка ў вершах і песнях, карыкатурыста ў малюнках". Лічыцца, што толькі пасля смерці А. Бартэльса яго песні і сатыра ўбачылі свет у друку, пазней вышаў шэраг нот для спеваў. Аднак можна меркаваць, што менавіта мінскія "Абразкі" былі яшчэ прыжыццёвым выданнем арыгінальных музычных твораў А.Бартэльса.

Давялося таксама знайсці тагачасны анонс друку музычных твораў Вітальда Пшыборы — паланеза для фартэпіяна і дзвюх полек. Сама асоба В. Пшыборы для нас застаецца амаль невядомай. Як віленская музыканта-піяніста яго згадвае А. Капілаў, а польская даследчыца А. Глагоўская, кажучы пра існаванне ў 1840 г. мінскай музычнай школы Вінцэнта Стафановіча, дзе рыхтаваліся музыканты для працы ў аркестры, сярод імёнаў вучняў называе і імя В. Пшыборы. Адзін музычны твор з вядомых і названых мінскіх выданняў В. Пшыборы таксама трапіўся мне ў Кракаве — "Полька для фартэпіяна. № 1. Венгерка" (выдадзена А. Валіцкім у літаграфіі У. Отта ў Варшаве). Можна пакуль толькі меркаваць, што і "Паланез для фартэпіяна" В. Пшыборы, абедзве анансаваныя полькі ("Венгерка" і "Вырвідушка") А. Валіцкаму ўдалося выдаць у 1861 ці 1862 г.




У працы А. Валіцкага "Stanislaw Moniuszko" (Варшава, 1873) пададзены спіс выдадзеных твораў кампазітара сярод якіх — лічаныя мінскія



казкі, якія чытаў у дзяцінстве, у кагосьці — прыпавесці Біблії і антычныя міфы. А хтосьці палічыць гэта за трызненне хворай душы. Мастак піша вершы да сваіх карцін, у рыфмаванай форме тлумачыць змест жывапісных кампазіцый.

Ягонае мастацтва, у пэўным сэнсе, на аматара. Яно цікавае для тых, каму даспадобы разгадваць загадкі і паўсюль вышукваць таемны сэнс. Такіх людзей не так ужо і мала. Так што Васіль Юшкавец мае свайго гледача.

**П. В.**

***НА ЗДЫМКАХ: Васіль Юшкавец; "Міг і вечнасць"; "Адраджэнне духоўнасці".***

---

выданні, прынамсі, падрыхтаваныя самім А. Валіцкім, — "Уласны стыль" ("Własny strój: Po co mi szukac zamorskich mod") і "Да Басі" ("Do Basi: Basiu, Basiu moja luba"). Гэтыя дзве выдадзеныя ў Мінску унікальныя песні С. Манюшкі ўдалося адшукаць у бібліятэцы Ягелонскага універсітэта, і з'явілася магчымасць зрабіць і пэўныя ўдакладненні наконт іх друку. Так, песня "Да Басі" на словы Ф. Дз. Княжніна была надрукавана ў К. Родэра ў Лейпцыгу, а песня "Уласны стыль" на словы А. Шэмеша выйшла са штыхарні Гебетнера і Вольфа ў Варшаве. У тэматычным каталогу "Piesni solowe S. Moniuszki" Э. Новачыка (Кракаў, 1954) ёсць больш падрабязная інфармацыя, выбраная з перапіскі А. Валіцкага з С. Манюшкам. Напрыклад, песня "Уласны стыль" мусіла выконвацца мецца-сапрана або барытонам, дапускалася выкананне часткі тэксту жаночым голасам, а песня "Да Басі" прызначалася для тэнара.

Адным з загадкавых імёнаў сярод аўтараў музычных твораў, выдадзеных А. Валіцкім у Мінску, застаецца кампазітар Адольф Грунер. У прыкніжных рэкламных спісах нотна-музычных выданняў А. Валіцкага налічваецца да шасці назваў фартэпіянных твораў А. Грунера мінскага "паходжання". Аднак толькі мазуркі "Два Сувеніры" (танцавальны) і "Пялёстак ружы" (для спеваў), надрукаваныя ў штыхарні Родэра, знайшліся ў Ягелонскай бібліятэцы. А паланез "Pierwiosnek", полька "Skromna", кантраданс "Fleurs de neige", галоп "Vogue la galere!" пакуль зафіксаваныя толькі ў спісе.

У другой палове XIX ст. ніводнаму з кнігароў-выдаўцоў Мінска так і не ўдалося развіць дзейнасць, падобную да нотавыдавецкай працы Валіцкага. Хаця, паводле сведчання гісторыкаў беларускай музыкі, другая палова XIX ст. была таксама вельмі насычана шматлікімі падзеямі ў музычным жыцці горада. Адзіным вядомым выданнем сталіся толькі "Музычныя даследаванні" (1899) Міхаіла Ельскага, выпушчаныя ў Мінску кнігаром Я. Філіповіам-Дубовікам. Ці, можа, рана і тут ставіць кропку ды не прыраўноўваць вывучанае да неіснуючага або да страчанага?

**Лора ДОЎНАР**

---

**ПРЭМ'ЕРЫ**

# НАВУЧЫЦЦА БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫМІ

***"Дзіўная місіс Сэвідж" рэжысёра Аляксандра Гарцуева — замілавальны, лёгкі, вельмі добры спектакль, на якім смешна за ўсіх нас, што не ўмеюць кахаць і распазнаць каханне, цаніць дабрыню, чалавечнасць, блізкіх. Ігра акцёраў, створаная імі атмасфера на сцэне выклікаюць слёзы расчуленасці, ціхую радасць. Рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы А. Гарцуеў на гэты раз пазбягае сентыментальных драматургічных меладрам, а ставіць моцную, глыбокую п'есу Джона Патрыка "Дзіўная місіс Сэвідж"...***

У былым Савецкім Саюзе п'есу Дж. Патрыка ўпершыню паставілі ў канцы 60-х гадоў у Тэатры імя Массавета. Пяць гадоў славутая актрыса Фаіна Ранеўская прабівала гэтую п'есу для пастаноўкі, у выніку — Тэатр імя Массавета атрымаў правы першым паставіць "Дзіўную місіс Сэвідж". На кожным спектаклі быў аншлаг, хадзілі глядзець пераважна на Сэвідж-Ранеўскую, пастаноўка была сапраўднай тэатральнай падзеяй. Не паглядзець "Дзіўную місіс Сэвідж" лічылася літаральна дрэнным тонам, інтэлектуальнай недасведчанасцю.

Несумненна, на "Дзіўную місіс Сэвідж" А. Гарцуева ў Купалаўскім тэатры будуць хадзіць (прэм'ера адбылася напрыканцы студзеня, і пакуль на кожным спектаклі аншлаг). Будуць хадзіць прыхільнікі адметнай рэжысуры Гарцуева, яго неадназначных пастановак, а таксама прыхільнікі цудоўных купалаўскіх акцёраў, якіх у спектаклі занята нямала. У новай пастаноўцы місіс Сэвідж іграе Зоя Белахвосцік. Зоя Белахвосцік іграе персанаж, значна старэйшы за сябе (Фаіна Ранеўская сыграла Сэвідж у семдзесят гадоў). Яе сівы парык, бабульчыны акуляры толькі штучна стараць аблічча місіс Сэвідж — жанчыны ў гадах. (Дарэчы, у гарцуеўскім спектаклі "Дзядзька Ваня" маладыя артысты таксама іграюць персанажаў, значна старэйшых за сябе.) Не зусім пакуль знайшла сваю гераіню Зоя Белахвосцік і знутры: пачуцці, эмоцыі місіс Сэвідж выглядаюць схематычнымі, а вось над сваімі персанажамі маладыя купалаўскія акцёры папрацавалі грунтоўна, іграюць пераканаўча. У наш прагматычны, даволі індывідуалістычны час п'еса Патрыка здаецца злабадзённай, актуальнай і глядзіцца з цікавасцю. Тым больш, што А. Гарцуеў значна скараціў драматургічны тэкст, маналогі місіс Сэвідж, пакінуўшы ў сцэнічнай кампазіцыі самыя важныя сцэны з п'есы, аздобіўшы спектакль візуальнымі штукарствамі, акцёрскімі гэгамі.



Ужо першыя музычныя кампазіцыі, выкарыстаныя ў спектаклі, падказваюць гледачам галоўную тэму спектакля. Музычныя ўрыўкі з навамоднага французскага фільма "Амелі" адкрываюць нам, што галоўная гераіня гэтай пастаноўкі — добрая дзівачка, якая хоча зрабіць людзей шчаслівымі. Усе грошы, якія пакінуў місіс Сэвідж пасля смерці яе муж, жанчына аддала ў заснаваны ёй "фонд шчасця", каб дапамагчы людзям здзейсніць іх запаветныя мары. На жаль, дзеці місіс Сэвідж палічылі гэта вар'яцтвам, нечым дзіўным і паспяшаліся запраторыць маці ў вар'яцкі дом.

Таксама, як у фільме "Амелі", у спектаклі сутыкаюцца светапогляды добрых дзівакоў і злосных абывацеляў. Дзівакі, канечне, знаходзяцца ў "доме дурняў" пад замілавальнай назвай "Ціхі прыстанак". Аднак місіс Сэвідж знаходзіць тут сапраўдных сяброў, якія разумеюць яе дзівацтвы. Бо кожны з тых вар'ятаў жыве няздзейсненай запаветнай марай. Былы матэматык Ганібал (В. Манаеў, В. Паўлюць) — навучыцца іграць на скрыпцы; а сапраўдны піяніст Джэфры (А. Малчанаў, С. Чуб) — зноў іграць, назаўсёды забыўшыся пра душэўныя раны, нанесеныя вайной; безабаронная Флорэнс (С. Анікей, Я. Русакевіч) — займець дзіця; няўпэўненая ў сабе Фэры (Г. Хітрык, В. Фадзеева) — быць прыгожай, заўсёды каханай; маўклівая місіс Пэдзі (А. Іваннікава, С. Некіпелава) — намаляваць мора, якое ніколі не бачыла. Знаёмая метафара, што наша жыццё — гэта вар'яцкі дом, у якім псіхічна хворыя людзі здаюцца (а мо і з'яўляюцца) падчас разумнейшымі за так званых нармальных людзей (нездарма доктар Эмет, якога ў спектаклі іграюць Г. Маляўскі і А. Падабед, не можа ўцяміць, дзе канчаецца розум, а пачынаецца вар'яцтва) праходзіць праз увесь спектакль. Зразумела, што больш ненармальнымі за астатніх персанажаў мусяць быць дзеці місіс Сэвідж, апантаныя прагай абагачэння. Іранічная, патрабавальная да іх жанчына (місіс Сэвідж адкрыта прызнаецца, што не любіць сваіх дзяцей) уцягвае іх у зневажальны фарс. І беспрынцыпныя, жорсткія шукальнікі грошай робяцца ў вачах грамадскасці брыдкімі, агіднымі вар'ятамі. Бо сенатар Ціт (І. Дзянісаў) па падказцы маці шукае схаваныя ёю каштоўныя паперы (100 мільёнаў долараў!) у аранжарэі прэзідэнта ў Белым доме, яго сястра Лілі-Бэл (Я. Кульбачная, А. Сідарава) — у заалагічным музеі, у чэраве іхтыязаўра, а брат Сэмуэл (П. Адамчыкаў, А. Гарбуз) — у трубе коміна. Розыгрыш дзяцей — адзін з самых камедыйных эпізодаў у спектаклі, у якім дабро, справядлівасць перамагаюць зло. Менавіта такім чынам місіс Сэвідж помсціць гэтаму прагматычнаму свету, у якім людзі баяцца быць шчаслівымі, жыць сваімі запаветнымі марамі, быць дзівакамі-летуценнікамі.



Што такое шчасце? Праз вобраз місіс Сэвідж мы разумеем, што сапраўды шчаслівы той, хто любіць блізкіх, ахвяруе для іх жыццём і нават надзеямі (усё жыццё місіс Сэвідж аддала служэнню свайму мужу і толькі пасля яго смерці ўспомніла, што ў яе былі свае запаветныя мары).

"Сёння мне ніхто не сказаў, што любіць мяне!" — скардзіцца місіс Сэвідж Фэры. Гэтая жанчына бачыць у пацыентах "Ціхага прыстанку" перадусім добрых людзей, вучыць іх быць шчаслівымі кожнае імгненне. "У свеце ёсць сотні спосабаў выказаць сваю любоў, трэба толькі разумець іх. Ну, напрыклад, калі вам кажуць: "На вуліцы ідзе дождж, вазьміце парасон", ці: "Будзьце асцярожныя — не скруціце сабе шыю", ці: "Вяртайцеся хутчэй", — можаце не сумнявацца, што вас любяць". Пацыенты цэняць душэўную цеплыню місіс Сэвідж. "У кожным чалавеку, — разважае Ганібал, — на два цэнты калію, на тры марганцу а, на пяць цэнтаў жалеза... Увогуле, пры цяперашніх высокіх цэнах, ніхто не каштуе больш за паўтара долары". Місіс Сэвідж жа для яго не мае кошту.

На сцэне мастак Д. Волкава інсталюе "Ціхі прыстанак" у выглядзе немудрагелістай канструкцыі з лесвіц і пляцовак. Тут утульна стаяць стол, крэслы, канапа, на паліцах — кнігі, гарыць святло, але толькі дзверы ў цэнтры канструкцыі, якія расчыняюцца і зачыняюцца па волі медперсанала, гукавыя сігналы — ісці спаць, гуляць у садзе — робяць гэты прытулак турмой, у якой цяжка дыхаецца місіс Сэвідж. Так, на нейкае імгненне яна вырашае застацца ў "доме дурняў" — тут спакайней. Адчуваецца, што ёй страшна вяртацца наноў у свет, дзе вар'яцтва больш, чым у псіхіятрычнай лякарні. Але ёсць яшчэ столькі людзей, якім трэба навучыцца быць шчаслівымі, радавацца жыццю. Кампазіцыйна спектакль закальцоўваецца: калі на яго пачатку пацыенты "Ціхага прыстанку" ўглядаюцца ў залу ў чаканні місіс Сэвідж, то ў фінале яны стаяць спінай да публікі, а тварамі да дзвярэй, куды пайшла гэтая чароўная жанчына. Стаяць у чаканні новага жыцця, заўтрашняга дня, ў які яны не вераць, але ў які паверыла дзіўная місіс Сэвідж.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

***НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля.***

***Фота Г. ЖЫНКОВА***



# НЯСВІЖСКІ ЗАМАК УЧОРА. СЁННЯ. ЗАЎТРА...

...УЧОРА ў Нясвіжы шмат што нібыта прадказвала леташні пажар у ноч на каталіцкія Каляды ў замку Радзівілаў. Увосень 2001 года страшэнныя сімвалы будучага кідаліся ў вока: анёл ці святы з адбітай галавой, кінуты ля сценаў касцёла, забаўляльныя атракцыёны, арэлі побач з храмам...

"Як там пажар!" — пыталіся героі ў чэхаўскіх "Сёстрах". Я памятаю, як летась у літоўскім курортным горадзе Паланзе на цэнтральнай вуліцы напалову згарэў адзін з самых старых, яшчэ драўляных будынкаў горада. Многія жыхары Палангі плакалі, з сумам і нават жахам у вачах спыняліся ля счарнелых парэшткаў будынка турысты-разявакі. Мо і нашы слёзы застылі там, у згарэлай частцы Нясвіжскага замка, дзе тоны вады ў дваццаціградусны мароз ператварыліся ў казачныя сталактыты!

Некаторыя мяркуюць, што пажар у замку ўзнік па віне рабочых, якія выкарыстоўвалі самадзейную газавую гарэлку, каб адагрэць замерзлыя трубы і кацёл (у 2000 годзе было прынята рашэнне аб рэстаўрацыі замка Радзівілаў, і падрыхтоўчыя работы вяліся акурат да пажару ў ім). А мо гэта рабочыя-блазны грэліся ў Нясвіжы ля тых д'ябальскіх атракцыёнаў! Ці, можа, гэта знак Божы! Бо апошні раз Нясвіжскі замак гарэў шмат стагоддзяў таму (каменны замак па праекце італьянскага архітэктара Бернардоні быў пабудаваны якраз пасля таго, як згарэў драўляны ў канцы XVI стагоддзя).







НЯСВІЖ. ЛЕТА-ЗІМА 2002 Г.

"Пагарэў, пагарэў!" — танчыў Фядоцік у чэхаўскіх "Сёстрах". Менавіта гэтая ўсхваляваная інтанацыя панавала ў матэрыялах некаторых газет і тэлеперадачах напачатку сёлетняга года. Урад рэспублікі ўзяў пад свой кантроль здарэнне. 4 студзеня ў Нясвіжскі замак завіталі віцэ-прэм'ер У. Дражын, чыноўнікі, журналісты. У выніку пажару цалкам згарэлі дахавае пакрыццё галоўнага корпуса плошчай у 600 кв. м і 110 кв. м перакрыццяў трэцяга паверха цэнтральнай часткі замка. Ад агню і пераважна ад вады былі пашкоджаны більярдная зала, камінная зала з дубовымі разнымі панэлямі, карціна XVIII стагоддзя "Багіня Леда і шэсць амураў", якая месціцца над цэнтральнай лесвіцай ( вада цэлыя суткі лілася па сценах і са столі), столі з бэлек чырвонага дрэва, паркет (хаця цяпер выявілася, што ён быў пакладзены не ў XVII—XVIII стагоддзях, а ў 50-я гады мінулага стагоддзя). Гісторыкі непакояцца таксама за старажытныя фрэскі, схаваныя пад фрэскамі Савіцкага, якія былі напісаны паверх іх.

СЁННЯ матэрыяльны ўрон ад пажару ў Нясвіжскім замку ацэнены ў 146 доляраў ЗША ці ў 282 тысячы беларускіх рублёў: згарэла якраз тое, што ўсё роўна павінна было рэстаўравацца. "Калі б не пажар, матэрыял гэтых канструкцый планавалася перавесці на дровы і рэалізаваць насельніцтву", — паведаміла агенцтву БелаПАН намеснік дырэктара па будаўніцтве Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж" З. Лабкоўская. На афіцыйным узроўні рэстаўрацыя замка павінна быць скончана не пазней 2006 года. Сёння замку неабходны новая сістэма ацяплення, элементарная абарона ад маланкі...

А што будзе ЗАЎТРА! А заўтра, хочацца спадзявацца, Нясвіжскі замак стане вядомым культурным і галоўнае — турыстычным цэнтрам Беларусі, афіцыйна ўнесеным у спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА (будзем спадзявацца, што унікальны дакумент 1658 г., у якім ёсць падрабязнае апісанне архітэктуры, інтэр'ераў замка, не застанецца без пільнай увагі даследчыкаў і рэстаўратараў). Заўтра, як сёння і ўчора, мы будзем ім ганарыцца, а Чорная панна Нясвіжа — Барбара Радзівіл, прывід якой, па паданнях, і сёння блукае па замку, будзе і далей "палохаць" шматлікіх турыстаў.

В. БАРАБАНШЧЫКАВА





ФОТА Г. ЖЫНКОВА







# БЯРОЗАВЫ СОК

## Да 90-годдзя з дня нараджэння Антона АЛЕШКІ

Маё асабістае знаёмства з Антонам Антонавічам Алешкам магло адбыцца двойчы — у 1956 і 1957 гадах. Ён, як пасля пераканаўся, быў слаўным чалавекам. Але абставіны бы знарок разводзілі нас у розныя бакі, хоць, не ведаючы яшчэ пра гэта, мы хадзілі аднымі і тымі ж сцежкамі.

Тады, розныя па ўзросце і ўнёску ў жыццё, мы мелі адно агульнае, што аб'ядноўвала, — авіяцыю. Ён — галоўны ўрач часці, падпалкоўнік медыцынскай службы з блакітнымі прасветамі на пагонах, а я з суцэльнаблакітнымі салдацкімі радавога. Па спецыяльнасці ў войску — я механік па электраабсталяванні самалётаў.

Скончыў я школу малодшых авіяспецыялістаў у знакамітым горадзе Пераслаўлі-Залескім, што каля Пляшчэева возера, на якім у далёкі ранейшы час Пётр І будаваў свой пацешны флот — правобраз будучага расійскага флоту. Перакідваючы мосцік праз стагоддзі, так і карціць расказаць, што практычныя заняткі з намі праводзіліся ў ангары, дзе сярод самалётаў стаялі аэрасані — самалёт на лыжах, — на якіх Васіль Сталін лятаў на паляванне ў гэтых мясцінах. На супрацьлеглым ад ангара беразе возера пралягала вузкакалейка, па якой з лесу да былой дачы Васіля Іосіфавіча рэгулярна ў горад хадзіла дзіўная дрызіна. На ёй стаяў вагон не вагон, а абрэзаны фюзеляж "дугласа", вялікага на той пары самалёта. Без кабіны і хвастовага апярэння. Відаць, нехта адданы свайму папярэдняму начальніку не стаў пераабсталёўваць дрызіну, а захаваў яе як памяць па апаленым і ўжо асуджаным Васілю Сталіну.

За дзесяць месяцаў навучання ў школе нам далі праграму электратэхнікума. Школу скончыў я з адзнакай. Атрымаў кароткачасовы водпуск з выездам на радзіму, з прадпісаннем пасля яго прыбыць на новае месца службы ў горад Калінін. (Цяпер, як і раней, ён носіць старадаўняе найменне — Цвер.) Я трапіў у 45-ы полк франтавой бамбардзіровачнай авіяцыі. Аснашчаны самалётамі "ІЛ-28". Яго запраўка складала сем тон газы "Т-1", якую крэнінгавалі з башкірскага нафтавага радовішча Туймазы. Акрамя боезапасу дзвюх пушак і здвоенай турэлі стралка-радыста, браў тры тоны бомбаў рознага калібру або адну атамную. У паветры мог знаходзіцца да чатырох гадзін.

Чаму так падрабязна? Спадзяюся, стане зразумелым у далейшым аповедзе.

Дывізія наша была парадная. Месцілася на базе Мігалава. Разам з прыкамандзіраваным "Тульскім" разведвальным палком налічвала больш за паўтараста самалётаў. Агромністая сіла! Яе трэба было паказаць. Нездарма аднойчы ледзь не на ўзлётную паласу ўехала легкавушка з заходнегерманскімі дыпламатамі. Разгаралася халодная вайна і ўсё больш набірала абароты. Вясной 1956 года кожнай раніцы на аэрадроме тэхнікі пыталіся адзін у аднаго: "Сёння быў?" "Быў", — адказвалі. Тыдні два панадзіўся лятаць над намі чужы разведчык. На вялікай, больш за дваццаць кіламетраў, вышыні. Звычайныя знішчальнікі яго не маглі дастаць, і ён, нахаба, карыстаўся гэтым, бы дражнячыся, нібы гаварыў: на, выкусі. Так, відаць, яно і было. І ўсё ж адбылося тое непазбежнае, што мусіла адбыцца. На пытанне: "Сёння быў?", з радаснай задаволенасцю адказалі: "Дасталі!" Салдацкая палявая пошта неўзабаве данесла, як было. Знялі са звычайнага знішчальніка ўсё лішняе, бакі заправілі напалову, пакінулі адну пушку, і малады лётчык ссадзіў нязванага госця. За маю далейшую службу цікаўны над намі не пралятаў. Адбілі ахвоту.

Наша дывізія ў строгім страі пралятала не толькі над Тушынам, але і над Масквой, і над самой Краснай плошчай. Нямала было геройчнага ў тым страі, ды гэта ўжо іншая песня.

Авіяцыйная тэхніка ў часцях абнаўлялася найперш па краях той прасторы, якую займела Савецкая Армія, потым у прылеглых вайсковых акругах. Лятаць на авіяцыйныя парады і на святы над Масквой на "ІЛ-28" стала непрэстыжна. З гэтай прычыны наш полк па месяцу два гады пералятаў на аэрадром у Баранавічы на месца аднаго з палкоў, з якім мы вялі ракіроўку. Уся баранавіцкая база лятала ўжо на магутных "ТУ-16". Гэта ваенная мадэль пазнейшых аэрафлотаўскіх "ТУ-104".

У Баранавічах у адным з палкоў і служыў Антон Антонавіч Алешка.

Адным словам, два гады па месяцу, як я ўжо казаў, тапталі мы з ім адны сцежкі, а пабачыліся, сустрэліся трошкі пазней у Саюзе пісьменнікаў. Я, малады і зялёны, на ўсе вочы дзівіўся з высокага, падцягнутага падпалкоўніка і, разгаварыўшыся, даведаўся, што яму вядома пра мяне больш, чым мне пра яго. "Ну, здароў, зямляк", — Алешка той раз першы працягнуў мне руку. Нядаўні салдат не чакаў парушэння субардынацыі такім чынам. Яна была як парушэнне вайсковага статута. Старшы па званні і старэйшы ўзростам для мяне быў непарушыздзеным аўтарытэтам. А тут яшчэ і знакаміты пісьменнік.

Нарадзіўся Антон Антонавіч у вёсцы Балотчыцы Слуцкага раёна. І маё Замошша аж амаль да сярэдзіны 60-х было таксама Слуцкім.

Неўзабаве Антон Антонавіч дэмабілізаваўся з арміі. У 1964 годзе часопіс "Маладосць" у двух нумарах надрукаваў яго аповесць з вельмі рамантычнай назвай "Над намі мільён вышыні". Праз чатыры гады "Полымя" пазнаёміла чытачоў з ягоным раманам "Дарогі без слядоў". І зноў жа — і загадкава, і рамантычна. Змест адпавядаў назвам. Абодва творы мелі харошую крытыку.

Недзе ў гэтыя гады вясной я прыехаў папрацаваць у апеты Дом творчасці "Каралішчавічы". Пад лапамі ялін і ў нізкіх зарасніках яшчэ хаваліся астаткі зляжалага снегу, усыпанага шыпулькамі хвоі. Каля шпакоўніц вакол дома спявалі і шчыравалі шпакі, там-сям бы знянацку пікіравалі сіваваронкі, ладзячы свае схаваныя гнёзды, праз верхавіны дрэў прабівалася з настойлівай упартасцю сонца. Усё ажывала, набіралася моцы. Можа ядраная, можа яшчэ як, а ў Замошшы сказалі б: здаровая вясновая раніца.

Выходжу на ганак і чую:

— Здароў, зямляк!

Гэта Антон Алешка зглядзеў мяне і запрашае:

— Ідзі сюды. Паходзім ды пагамонім трохі.

Перад Домам творчасці за дарогай пры ганку — вялікая клумба. Пачарнелая, з пасохлымі бадылямі ад леташніх кветак. Яна пасярэдзіне даволі прасторнай палянкі, якую акаймляюць вынасістыя векавыя елі і сосны. За клумбай прыпыніўся і чакае мяне Антон Антонавіч. У руках трымае нарэзаныя з сухой вербалозіны пруткі і самаробны складанчык з драўлянымі лаўкамі. Такія робяць дзяды па вёсках хадзіць у грыбы.

— Хадзем да дарогі, — павітаўшыся, гаворыць ён. — Там таксама, здаецца, ёсць бярозы. Бо за сталоўкай і фінскімі домікамі і без нас хапае аматараў падсочкі.

Да снедання ёсць час, і мы прабіраемся ў процілеглы ад клумбы бок да шашы, па якой, чутно, яшчэ мала хто ездзіць.

— Кожнаму жывому, браце, баліць, — гаворыць мой старэйшы таварыш, і я разважаю сам сабе: прамаўляе гэта мудры вясковы дзядзька ці спрактыкаваны ўрач. А Антон Антонавіч тлумачыць тым часам, бы дакарае некага нябачнага: — Некаторыя, каб спусціць бярозавы сок, сякуць не шкадуючы дрэва сякерай. Убіваюць у рану шырокі, як лапата клін, каб больш было. І чым глыбей падсечка, тым больш, лічаць, соку пацячэ. Аж ручаём. А сок жа ідзе па ствалу ад карэння да самай верхняй галінкі ў асноўным пад бяростай. Нашто ж калечыць дрэва?! Ты прыглядзься на такія. Рана не зацягваецца гадамі. Бывае, і да таго часу, калі дрэва само памірае ці яго зваляць. — Памячаў, памарудзіў, можа, думаючы, што я скажу, потым працягваў гаворку, ужо скіраваную да сябе, да нас абодвух: — А ножыкам прарэжам бярэсту неглыбока, да жывога дрэва і сухі завострany калок падаб'ём. І слоік пад яго падставім. І таму не пашкадуем, хто знойдзе: пі на здароўе...

У каралішчавіцкім лесе казак-показак, быляў-небыляў колькі праслухана ды расказана?! Мабыць, не толькі людзі, а хвоі і елкі шмат чаго могуць успомніць. Вось хаця б гэтая векавая яліна паўз дарогу ў сталоўку. Стаіць яна злева асфальтаванай дарожкі, калі ісці з дому ў сталоўку. Па баках камля дрэва — жалезныя слупкі. Паміж імі начэпленыя прагнутыя ланцужкі. І слупкі, і ланцужкі пафарбаваныя белай фарбай. Мармуровая пліта побач расказвае, што на лавачцы пад гэтай ялінай любіў пасядзець і адпачыць Якуб Колас.

Або за дарогай на сонечным баку — дзіцячы вавёрчын сад. Хочаш ці не хочаш, а пашукаеш падабенства яго з карцінай знакамітага рускага мастака Івана Шышкіна "Раніца ў хваёвым лесе". На карціне, праўда, мядзведзяняты з мядзведзіцай, а тут вавёркі. Знізу ўверх, зверху ўніз так і мільгаюць, так і лятаюць услед за мамай і самі за сабой, па-дзіцячы дурэючы. Але гэта мы назіралі ўжо ў другое наша прабыванне ў Каралішчавічах.

— А вось жа паднімаецца ў некага рука страляць гэткае хараство, — сваім хрыплаватым голасам сказаў тады Антон Антонавіч і моцна ўздыхнуў і змоўк на некалькі хвілін, сцяўшы нерухома вусны.

Я здагадваўся, пра што ён падумаў. У Доме творчасці асталяваўся нядаўна новы дырэктар. Адстаўнік у высокім армейскім званні. Часта хадзіў з дубальтоўкай. Як кажуць, чалавек з ружжом у самым паганым сэнсе. Ён і панадзіўся хадзіць за дарогу ў вавёрчын дзіцячы садзік. Здуру, ад лішку вольнага часу і адсутнасці работы пачаў былы палкоўнік адстрэльваць вавёрак. Правяраць сам сябе: ці не збілася мушка, ці цвёрдая рука ў чырвонага стралка, як спявалася раней? Ён прыцішваў свой сверб на час, калі ў доме было шмат пісьменнікаў і яны прыструньвалі героя. І ўсё ж, забягаючы наперад, скажу: пастраляў-такі былы служывы тых вавёрачак, дамогся свайго, не адступіў ад мэты, хоць яна была злачынная. Таму быў навучаны. Пры жыцці Алешка гэтага не ведаў. І дзякаваць Богу, бо да яго сэрца прыдаўся б яшчэ адзін боль...

Антон Алешка пачаў друкавацца перад вайной, калі пасля настаўніцкіх курсаў пры слуцкім педвучылішчы працаваў настаўнікам у Лапічах пад Асіповічамі. У вайну — ён прыхапіў і фінскую! — мала хто ведаў, што ён малады пісьменнік. У час ваенных дзеянняў медыцына абавязана прысутнічаць на аэрадроме. Невядома, якім падбітым ці пабітым сядзе самалёт і яго экіпаж. Расказваў Антон Антонавіч, што неаднойчы аказваў першую медыцынскую дапамогу лётчыкам на ўзлётна-пасадачнай паласе, некаторых даводзілася выцягваць з кабіны. А калі абыходзілася шчасліва і ўсе вярталіся жывыя-здаровыя, не адыходзіў ад сваіх ястрабкоў, распытваў, унікаў у дэталі, быццам самому яму неадкладна трэба было ляцець: як атакавалі фашыстаў — знізу ці зверху, заходзілі з боку сонца ці супраць, ці скарыстоўвалі воблакі як засаду, ці не адставаў вядомы ад вядучага і многа чаго. "Навошта табе, доктар?" — часта дзівіліся лётчыкі. А доктар тым часам матаў сабе на вус: прыгадзіцца. Веданне тэмы для пісьменніка — галоўнае, а дакладнасць дэталі як нішто спрыяе раскрыццю яе, не дае зграшыць супраць праўды. Пасля многія з пілотаў аднапалчан пазнавалі сябе ў яго творах. Нібы ўзнаўлялі з кінаплёнкі эпізоды баёў у небе, паводзіны на зямлі, жыллі ў тых бытавых умовах, у якіх сапраўды некалі жылі. Хіталі галовамі, прыгаворвалі: "Ай ды доктар, ай ды герой, мастак!" А самі былі і сапраўднымі героямі, і майстрамі-мастакамі бою.

Іх гвардзейскі авіяцыйны разведвальны полк меў на сваім сцягу не адну баявую ўзнагароду. За паспяховы ўдзел у аперацыі "Баграціён" летам 1944 года і непасрэдна за вызваленне горада Оршы ўдастоіўся наймення "Аршанскі".

Антон Алешка пасля вайны раўніва сачыў за лёсам роднага палка. А той, адпаведна вайсковаму лёсу і загадам камандавання, апынуўся аж на Далёкім Усходзе, у горадзе Усурыйску, побач з дзяржаўнай мяжой Савецкага Саюза з Карэяй. Там паміж дзвюма Карэямі тры гады ішла крывавая вайна. Асобным авіяцыйным корпусам савецкіх лётчыкаў камандаваў на той вайне тройчы Герой Савецкага Саюза Іван Мікітавіч Кажадуб.

Дарогі ветэрана і яго палка нібыта ўжо і разышліся, але не знікла, не прытухла, як вогнішча, іх роднасць. Пісьменнік неаднойчы бываў у родным палку, з'яўляўся членам савета яго ветэранаў. У далёкі край завёз ён не адну сваю кнігу, падарыў бібліятэцы часці, многім харошым лётчыкам, тэхнікам і, вядома, санчасці палка.

Мой зямляк, пісьменнік Антон Алешка быў чалавекам не тое, каб ціхмяным, але спакойным, ураўнаважаным. Пра такіх гавораць, што спярша падумае, потым скажа.

Сваім трохі прыглушаным голасам расказваў Антон Антонавіч, а я слухаў і бачыў, як бліскала ў яго мудрым воку сляза гонару за свой полк, за ўсіх сваіх пабрацімаў і часу ваенных гадоў, і пазнейшага часу.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

## ВІНШУЕМ!



**5 студзеня споўнілася 60 гадоў празаіку Анатолю Пятровічу Жалязоўскаму. Ён нарадзіўся ў вёсцы Крапіўна Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі інстытут фізічнай культуры. У 1963—1965 гадах служыў у войску, затым працаваў трэнерам у дзіцячай спартыўнай школе ў Оршы (1968). Быў загадчыкам аддзела Віцебскага абкама камсамола (з 1968-га), інструктарам апарату Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі (з 1971 года). Працаваў у Беларускім савеце па турызме з 1974-га, у Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Мінскім турбюро падарожжаў — з 1975. З 1979 года Анатоль Жалязоўскі ўзначальваў аддзел прапаганды і выхаваўчай работы Спорткамітэта БССР, а з 1987 быў дырэктарам Дома літаратара. Быў намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 1990-х гадах.**

**Публікавацца пачаў у 1973 годзе. Выступае ў айчынным друку з апавяданнямі, аповесцямі, крытычнымі артыкуламі, рэцэнзіямі, дарожнымі нататкамі. Анатоль Жалязоўскі — аўтар выдадзеных асобнай кнігай аповесці "Пералом" (1981), а таксама кнігі "Горкі хлеб" (1985), у якую ўвайшлі яго аповесць і апавяданні. Ва ўласным перакладзе на рускую мову ён выдаў зборнік прозы "Ожидание счастья", які выйшаў у Маскве ў 1987 годзе.**

**Віншуючы Анатоля Пятровіча з юбілеем, жадаем яму новых творчых поспехаў і моцнага здароўя.**

---

**10 лютага адсвяткуе свой 60-гадовы юбілей літаратуразнавец, пісьменнік Міхаіл Аляксандравіч Тычына.**

**Міхась Тычына нарадзіўся ў Якуціі, у пасёлку Ленінскі Алданскага раёна, у сям'і золаташукальніка (дзед Міхаіла Аляксандравіча быў незаконна рэпрэсіраваны як кулак і высланы з Радзімы). У 1947 годзе сям'я пераехала ў Магілёўскую вобласць, у вёску Завалочыцы на Глушчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы Міхась паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута (у 1959). Настаўнічаў на Піншчыне, служыў у Савецкай Арміі. Выкладаў у Хойнаўскай сярэдняй школе Пінскага раёна беларускую і рускую мовы. У 1967—1970 вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Працаваў там жа малодшым, пасля старэйшым навуковым супрацоўнікам. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Кузьмы Чорнага ў 1971 годзе.**

**Друкавацца пачаў у 1963. Міхась Тычына — аўтар шэрагу навуковых манаграфій, сааўтар калектыўных літаратуразнаўчых даследаванняў.**

**Сярод найбольш вядомых кніг Міхаіла Аляксандравіча — "Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення" (1973), "Народ і вайна: Нацыянальны характар як аб'ект адлюстравання: Спроба гісторыка-тыпалагічнага аналізу беларускай ваеннай прозы" (1985, на рускай мове), "Карані і крона: Фалькрор і нацыянальная спецыфіка літаратуры" (1991). Выдаў зборнікі крытычных артыкулаў "Змена квадры" (1983), "Час прозы" (1988). Плённы вучоны, Міхась Тычына сумяшчае навуковую дзейнасць з літаратурнай. Ён напісаў кнігі прозы "Дажынкі" (аповесць і апавяданні, 1979), "Вяртанне: Аповесць пра Кузьму Чорнага" (1984).**

**Віншуем Міхася Аляксандравіча з 60-годдзем і зычым здароўя, плёну ў працы і творчых удач!**

**С. Я.**

## "БЕЛАРУСЬ. ГІСТАРЫЧНЫЯ ВАНДРОЎКІ"

### РЭСПУБЛІКАНСКІ ДЗІЦЯЧЫ ГІСТАРЫЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ КОНКУРС

**МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" запрашае школьнікаў Беларусі 12—14 гадовага ўзросту ўзяць удзел у конкурсе "Беларусь. Гістарычныя вандроўкі".**

**Конкурс праводзіцца па намінацыях:**

**1.Творы на гістарычную тэму: пра значныя падзеі, славутыя асобы гісторыі Беларусі, гістарычныя помнікі (сачыненне, балада, паэма, вершы, паданне).**

**2.Жывапісныя творы, прысвечаныя гістарычным падзеям, славутым асобам, помнікам гісторыі. (Фармат графічных і жывапісных прац — да 70 см па вялікім баку. Кожная праца павінна быць падпісана друкаваным шрыфтам на зваротным баку.)**

**Калектыўныя працы павінны мець суправаджальны ліст. Усе працы павінны мець зваротны адрас, прозвішча і імя ўдзельніка, узрост, па магчымасці кантактныя тэлефоны.**

**У сувязі з 450-годдзем Рэфармацыі, асаблівая ўвага будзе надавацца работам, прысвечаным XVI ст. Беларусі.**

**Работы прымаюцца да 15 красавіка 2003 г. Пераможцы конкурсу атрымаюць каштоўныя ўзнагароды.**

**Працы накіроўваць па адрасе: 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная 15. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

*Творы можна накіроўваць электроннай поштай: zbsb@lingvo.minsk.by*

*Кантактны тэлефон: 289-31-94.*

## "РЭФАРМАЦЫЯ І РЭНЕСАНС У БЕЛАРУСІ. XVI ст."

### РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС НАВУКОВЫХ ПРАЦ

**Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвяшчае рэспубліканскі конкурс сярод студэнтаў ВНУ, аспірантаў і суіскальнікаў навуковай ступені ўзростам да 30-ці гадоў.**

**Тэматыка конкурсу:**

**-Канфесійная сітуацыя ў ВКЛ XVI ст.;**
**-ВКЛ у еўрапейскай палітыцы XVI ст.;**
**-сацыяльна-эканамічныя працэсы ў Беларусі XVI ст.;**
**-Матэрыяльная культура ВКЛ;**
**-Грамадска-палітычная думка ВКЛ;**
**-Багаслоўская і філасофская думка ВКЛ;**
**-Архітэктура Беларусі XVI ст.;**
**-Адукацыя і навука ў ВКЛ XVI ст.;**
**-Кнігадрукаванне ў Беларусі ў XVI ст.;**
**-Статуты ВКЛ і юрыдычная думка XVI ст.;**
**-Літаратура Беларусі XVI ст.;**
**-Вялікія постаці рэфармацыйнага руху ў Беларусі;**
**-Мастацтва ў ВКЛ XVI ст.;**
**-Уплыў рэфармацыйнай думкі на далейшае гістарычнае развіццё.**

**Вітаюцца таксама тэмы, якія раскрываюць іншыя аспекты беларускай культуры XVI ст., і міжгаліновыя навуковыя даследаванні (гістарычная сацыялогія, археалогія, музыказнаўства і інш.).**

**Ацэньваць працы будзе Экспертная камісія на чале з доктарам гістарычных навук, прафесарам Анатолем Грыцкевічам.**

**Лепшыя даследаванні будуць надрукаваныя ў зборніку пад аднайменнай назвай. Таксама аўтары найлепшых прац будуць запрошаныя да ўдзелу ў якасці выступоўцаў у Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рэфармацыя і грамадства", якая адбудзецца ў кастрычніку 2003 г. Матэрыялы канферэнцыі будуць выдадзеныя.**

**Матэрыялы на конкурс, аб'ёмам не больш за 10 старонак (шрыфт Times New Roman, памер 12), неабходна даслаць не пазней 20-га чэрвеня г.г. у друкаваным выглядзе па пошце (220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная 15. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына") ці на e-mail (zbsb@lingvo.minsk.by). Да матэрыялаў неабходна прыкласці кароткія біяграфічныя звесткі (імя, прозвішча, год нараджэння, месца працы/вучобы/, пасада, кантактная інфармацыя) і інфармацыю аб навуковай дзейнасці (тэматыка даследаванняў, спіс навуковых публікацый).**

**Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.**

*По даведкі звяртайцеся на e-mail (zbsb@lingvo.minsk.by) ці па тэлефоне (017) 289-31-94.*

**БЕЛАРУСЬ-ЛАТВІЯ**

# ПРЫСВЕЧАНА ЮБІЛЕЮ ПЁТРЫ МІРАНОВІЧА

У калядны марозны вечар 27 снежня летась у галерэі Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі адбылося адкрыццё мастацкай выставы, прысвечанай 100-годдзю беларускага мастака Пётры Мірановіча. Выставу арганізавала латвійская суполка аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" сумесна з латвійскім таварыствам беларускай культуры "Сьвітанак". У выставе прынялі ўдзел мастакі-беларусы Вячка Целеш, Анатоль Ермаковіч, Мікола Гаўрыловіч, Ларыса Лойка, Васіль Малышчыц, Георгій Насенка, Тамара Насенка, Ганна Пейпіня, Алена Раманенка і Кацярына Вольская. А таксама мастакі іншых нацыянальнасцяў Латвіі: латыш — Юрыс Германіс, рускія — Васілій Хванаў і Аляксандр Лук'янаў, паляк — Фелікс Раманоўскі, яўрэй — Майсей Жухавіцкі, украінец — Георгій Круты, армянін — Бабкен Сцепанян і грузін — Нугзар Паксадзэ. У экспазіцыі было паказана 30 твораў жывапісу, графікі, габелен і скульптурны рэльеф. Ганаровае месца занялі жывапісныя палотны Пётры Мірановіча "Партрэт Сяргея Сахарава з унукам" 1941 г. і "Возера ў Латгаліі" 30-я гады, узятыя на час выставы з прыватнага збору дачкі Сяргея Сахарава Ірыны Сяргееўны Вількель (Сахаравай). З 1937 г. з часу заканчэння Латвійскай акадэміі мастацтваў і да



# У ВЯНКУ СЯБРОЎ

*Калі згадаць "Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР", шматлікія анталогіі перакладаў, перагартаць "Далягляды" ці "Ветразь", можна зрабіць выснову, што мы жылі ў вянку сяброў. Калісьці "ЛіМ" вёў спецыяльную рубрыку "Чуцен голас наш далёка", дзе паведамлялася аб творчых стасунках нашай літаратуры, узаемасувязях культур. "Галасы свету" ў "Полымі" знаёмілі нас з сучаснымі дасягненнямі літаратараў далёкага і блізкага замежжа. Не хацелася б, каб і новае пакаленне нашых творцаў забыла імёны адданых, шчырых сяброў Беларусі, не ўдзельнічала ў дыфузіі — у тым літаратурным узаемаўзбагачэнні, якое могуць весці толькі перакладчыкі-шпалаўкладчыкі.*

*Юбілейная дата для творцы — нагода выказаць яму сваю павагу і ўдзячнасць. Таму для прыхільнікаў латышскага Слова называю некалькі імёнаў нашых сяброў з бурштынавага краю.*

*28 лютага адзначае 80-годдзе Мірдза Абала — навуковец, перакладчык твораў У. Караткевіча, Якуба Коласа. За вялікі набытак у даследаваннях, прэзентацыі на латышскім мацерыку творчасці беларусаў узнагароджана медалём Ф. Скарыны. 13 сакавіка споўніцца 75 гадоў Ілзе Апінэ, даследчыцы латышска-беларускіх узаемадачыненняў, аўтару кнігі "Беларусы ў Латвіі".*

*8 ліпеня 100 гадоў з дня нараджэння Юлія Ванага. 13 лістапада — 70-гадовы недажыты юбілей Ояра Вацыеціса.*

*3 траўня можна паслаць віншаванне Іманту Зіедонісу з яго слаўным 70-годдзем. А мо хто памятае Олгу Лісоўску, народжаную 4 жніўня 1928 года, ці Лайму Лівену, у якой дзень нараджэння 9 ліпеня 1943 года? Будзем памятаць мы, — будуць помніць і нас!*

*Мінула 70 гадоў з дня нараджэння Пэтэрыса Юрцыньша. Ён піша па-латышску і па-латгальску (паходзіць з Лудзенскага раёна), таму вымушаны латышскаму чытачу ў вершах, напісаных у латгальскай Рагоўцы, рабіць зноскі; тлумачыць, што такое кузулс (кужаль), лытка, квороба (хвароба). Самае цікавае, што ў словах Пэтэрса Юрцыньша (Пітэрса з Рагоўкі) ёсць і наша найраднейшая літарка: у нескладовае.*

*Сваю кнігу "Усё наканавана нябёсамі" ён падпісаў мне так: "Беларускаму брату..." Вось з гэтай юбілейнай для майго сабрыса кнігі і прапаную некалькі твораў. Падрадкоўнікі выканала мая сястра Ніна з Юрмалы. Яна не толькі мой памочнік. Гляньце ў том выбранага Яніса Райніса ў "Скарбах сусветнай літаратуры". Там аўтарам падрадковых перакладаў з'яўляецца Ніна Янсанэ.*

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**старшыня таварыства "Беларусь-Латвія".**

**Пэтэрс ЮРЦЫНЬШ**



*Ведаць бы, чым я дарогу*
*напоўню.*
*Бачу не будучыню,*
*а поўню.*
*На акаёме разветраны лес.*
*Укараніўся ў пустэчу.*
*А чубчыкі дрэваў*
*з морам глыбінным*
*сяткуюць сустрэчу.*
*Тут зелянее і цень карча,*
*бо не адно пакаленне*
*доўга чакала ў маіх вачах*
*іскры натхнення.*
*Можна застацца мне тут*
*маладым.*
*З памяці сцерці рудыя ігліцы.*
*Можна мне тут*
*прылагодзіць гады.*
*Юрмальскі друз не схаваў назаўжды*
*нашыя крыцы.*

*хочаш хітрасцю скарыць.*
*Ты з іскрыстай*
*пекнатою*
*заінеласцю густою*
*можаш і ў чашчобе жыць —*
*незабыўнай, залатою.*

*Сэрца зноў перагарае —*
*так мяне любоў карае.*
*Любасць як цалік імжыць.*
*Хто ідзе — не памірае.*

•

*Шасток для зыбкі.*
*Зноў у трывозе*
*калыскі шасток.*
*Як нарадзіцца?*
*Дзе мой гарадок?*

### СЛІЗГОТНЫ ЦАЛІК

*А мяне не прыпыніць.*
*Роспач не хачу я сніць.*
*Я ў тваё мігі не веру:*

### ТВАЯ КРЫЎДА

*Птах мой пад кронаю*
*пырхае скрыдламі.*
*Ты задаволена*
*словамі-крыўдамі?*

*Доля птушыная.*
*Словы праветрацца.*
*Веру я:*
*з выраю*
*добрымі вернуцца.*

1944 г. да ад'езду ў эміграцыю Пятром Мірановічам было напісана шмат партрэтаў латвійскіх беларусаў, але ён быў і добрым пейзажыстам, які шмат малюнкаў і карцін прысвяціў роднай латвійскай Латгаліі. Менавіта таму, аддаючы даніну памяці майстру латвійскага пейзажу Пётру Мірановічу (памёр у Нью-Йорку ў 1990 г.), экспазіцыю гэтай выставы склалі ў асноўным пейзажы Латвіі, напісаныя мастакамі розных нацыянальнасцяў, якія стала жывуць у балтыйскай дзяржаве. Адкрыццё выставы сталася не толькі падзеяй у нацыянальнай культуры беларускай дыяспары Латвіі, але і радасным калядным і перадпавагоднім святам. П. Мірановіч быў латвійскім беларусам — каталіком, дарэчы, у Латвіі ў г. Пiедруя ў касцёле, дзе яго хрысцілі, знаходзіцца ікона Маці Боскай, якую ў 30-х гадах напісаў для алтара гэты мастак, таму і выстава гэтая была прымеркавана да каталіцкіх Каляд. Падчас адкрыцця выставы пра яго дзейнасць і творчасць у Латвіі і Амерыцы распавёў аўтар гэтых радкоў, але найбольш цікавымі былі ўспаміны пра мастака яго пляменніка Яўгена Вільгельмавіча Мірановіча з г. Ялгавы, пляменніцы Алены Антонаўны Сіндзянавай (Мірановіч) з Рыгі, а таксама пляменніцы па лініі маці Мірановіча Аленены Ялоўскай з Краслаўскага раёна Латвіі. Апошняя ўспамінаючы пра свайго дзядзьку, прачытала вершы на роднай мове. Пасля чаго гучалі беларускія і латышскія песні ў выкананні прафесійнай опернай спявачкі, сябра, "Сьвітанка" Ганны Крупскай, а таксама рускай спявачкі Ноны Рахманавай. Шчыра віталі адкрыццё выставы, віншавалі мастакоў і родных Пётры Мірановіча старшыня латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" Таццяна Казак, старшыня Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі вядомы піяніст Латвіі прафесар Рафі Хараджанян, прэзідэнт канцэрна "Рада" Янка Кабановіч. Вялікую падтрымку ў арганізацыі выставы зрабілі латвійскія бізнесмены-беларусы Валянціна Варатнікова і Янка Кабановіч.

Пасля адкрыцця выставы, беларускія гаспадары імпрэзы частавалі гасцей беларускімі дранікамі, салам і нават хатняй каўбасой, прывезенай з Віцебшчыны мастаком Міколам Гаўрыловічам. Шчырыя беларусы, дзе бы яны ні жылі, заўсёды застаюцца беларусамі шчодрымі, вясёлымі, са сваімі песнямі, са сваімі традыцыямі любіць і шанаваць сваю мову, сваю культуру і мастацтва, сваю гісторыю і спадчыну, не зважаючы на палітычныя мітрэнгі, якія прыходзяць і адыходзяць, застаюцца са сваім духоўным багаццем, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне. Да такіх беларусаў належаў і Пётра Мірановіч. Ён быў з кагорты беларускіх мастакоў-патрыётаў Язэпа Драздовіча і Пётры Сергіевіча, якія сваім мастацтвам услаўлялі беларусаў, свой родны край, яго гісторыю і спадчыну, працавалі на ніве беларускага асветніцтва, на іх не паўплывала кан'юнктурная ідэалогія таталітарнай савецкай імперыі, бо жылі і тварылі яны за яе межамі. Язэп Драздовіч і Пётра Сергіевіч — у Заходняй Беларусі ў Вільні, Пётра Мірановіч — у Латгаліі і ў Рызе. Менавіта мастацтва гэтых мастакоў у той час было ўзорам беларускага мастацтва за межамі савецкай Беларусі, аб чым гавораць не толькі ўспаміны розных людзей таго часу пра мастакоў, але і серыя паштовак "Беларускае мастацтва", выдадзеная ў 1939 г. у Вільні з рэпрадукцыямі карцін Язэпа Драздовіча, Пётры Сергіевіча і Пётры Мірановіча.

Імя Пётры Мірановіча стаіць у адным шэрагу з імёнамі вядомых беларускіх асветнікаў Кастуся Езавітава і Сяргея Сахарава, якія разам працавалі на ніве беларускага адраджэння ў 1920—1940 гады ў Латвіі. Працуючы над даследаваннем жыцця і творчасці Пётры Мірановіча, аўтар гэтых радкоў спадзяецца, што ў хуткім часе будзе выдадзена кніжка пра латвійска-амерыканскага мастака-беларуса калі не ў Мінску, то ў Рызе. І гэта ідэя мела падтрымку на адкрыцці выставы ў Рызе. Гэтая выстава раскрыла не толькі для беларусаў і латышоў, але і для іншых нацыянальных груп і дыяспар Латвіі адну са старонак багатай беларускай культуры на гэтай зямлі.

**Вячка ЦЕЛЕШ,**
**старшыня аб'яднання**
**мастакоў-беларусаў Балтыі**
**"Маю гонар"**

***г. Рыга***

# ВАСІЛЬ САХАРЧУК



27 студзеня трагічна пайшоў з жыцця беларускі паэт і перакладчык Васіль Якаўлевіч САХАРЧУК.

В. Сахарчук нарадзіўся 10 ліпеня 1953 года ў в. Свадзьбічы Бярозаўскага раёна. Скончыў Равяцкую сярэднюю школу. У 1970–1975 гадах вучыўся на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта БДУ. Настаўнічаў на Любаншчыне. У 1978 годзе пераехаў на Брэстчыну, працаваў у школе роднага раёна, а з 1979 – у раённай газеце "Сельская праўда" (Жабінка), напачатку карэспандэнтам, затым загадчыкам аддзела, адказным сакратаром. Шмат гадоў кіраваў жабінкаўскім раённым літаратурным аб'яднаннем "Плынь".

Вершы В. Сахарчука ўвайшлі ў калектыўны зборнік паэзіі "Універсітэт паэтычны" (1971), нізка вершаў "Зорны мост" з'явілася ў калектыўным зборніку маладой паэзіі "Крыло" (1984). У 1988 годзе выйшла кніга паэзіі В. Сахарчука "Даніна", ў 90-я гады – кніга вершаваных загадак "Што такое, хто такі?".

В. Сахарчук вядомы і як удумлівы і таленавіты перакладчык. Сумесна з Нілам Гілевічам ён пераклаў кнігу лірыкі балгарскага паэта Пее Яварава "Апалавы пярсцёнак" (1988). Перакладаў В. Сахарчук і рускіх, і ўкраінскіх паэтаў.

Сяброўскі, натхнёны і светлы воблік паэта застанецца ў сэрцах і душах яго сяброў і чытачоў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

<u>Станіслаў **ВАЛОДЗЬКА**</u>



## ЖАЎРАНАК

*Над роднай вёскай жаўранак*
*трапеча,*
*Над роднай хатай жаўранак звініць.*
*Калісь і я, маленькі чалавечак,*
*З радзімай рос тут, гледзячы увысь.*

*Нібы айчыны сэрца, жаўра б'ецца,*
*Як ранішняя зорачка трымціць,*
*Ён з будучым мінулае*
*імкнецца*
*З зямлёю неба*
*ніццю парадніць...*

*Як свята, мне з радзімаю сустрэча,*
*Вядзе мяне сюды дарогі ніць,*
*І сэрца маё жаўранкам трапеча,*
*І ў сэрцы радасць жаўранкам звініць.*

*Чакае нас усіх дарога ў вечнасць,*
*Да прашчураў,*
*І там я буду сніць:*
*Над родным краем жаўранак*
*трапеча,*
*Над бацькаўшчынай*
*жаўранак звініць...*

## МІКАЛАЕЎШЧЫНА

1

*Вядома болей вёска гэта,*
*Чым нейкі горад нездарма.*
*Ёй, што дала паэта свету,*
*Паклон сталіца шле сама.*

*Радкамі шчырымі сагрэты,*
*Вякі удзячны будуць ёй...*
*Хіба ў вялікага паэта*
*Радзіма можа быць малой?*

2

*Не забывай*
*Ва ўзросце спелым*
*Колас*
*Да дому пакланіцца*
*Старане,*
*Дзе ён прарос,*
*Як парастак той кволы,*
*І ўзяўшы сілу,*
*Хораша руней...*

*Таму і Мікалаеўшчына будзе*
*Удалячынь з надзеяй паглядаць*
*З-пад рук застрэшкай:*
*Вечна будуць людзі*
*Сюды ісці*
*Зямны паклон аддаць...*

•

*Мне салодка і горка —*
*Дзяцінства прысніцца,*
*Тыя сцежкі-дарожкі,*
*Дзе бегаў малым,*
*Дзе ў паветры стаялі*
*І слодыч і горыч,*
*Дзе спрадвеку буялі*
*З медуніцай палын.*

*Мурагу там лагоду*
*І колкасць іржышча*
*Буду помніць нагамі*
*І на ўскрайку жыцця,*
*І ў вачах маіх будзе —*
*Тое неба заўсёды,*
*Над дзіцём дзе кружылі*
*То груган, то бацян.*

*Невядомаю сілаю*
*Цягне чаму так*
*Там пацяху прайсціся,*
*Дзе бегаў малым,*
*Дзе спрадвеку буялі*
*На радасць і смутак*
*Медунічныя зоркі*
*І зорка палын...*

*О, дзяцінства маё,*
*Ты — маё залацінства,*
*Медунічна было мне,*
*Бо маці жыла.*
*О, дзяцінства маё,*
*Ты — маё сірацінства:*
*Мне палынна было —*
*Бацьку смерць узяла...*

•

*Зраіліся ўспаміны на мяне,*
*Што нават ручніком не адагнаць іх!*
*Шчымяць на нашай грушы пчолы*
*ў мой*
*Маленства поўдзень —*
*Мне ўжо дванаццаць.*

*Ад спёкі з языком на барадзе*
*У ліпені стаяў паджары поўдзень,*
*Калі сказала мама ўпершыню:*
*— Ну што, сынок,*
*Збірай прылады, пойдзем*
*У пчолы.*
*Ты ж цяпер мой гаспадар.*

*Як зараз помню —*
*Думаў я не доўга,*
*Хоць мой настрой адразу ж і упаў,*
*Ударыўшыся гулка аб падлогу!*

*Пасля нічога страшнага, прывык.*
*Свой дымакур заправіўшы да вечка,*
*У сетцы, бы ў скафандры,*
*Шчыраваў*
*Ля зорак-пчол*
*Старанным пчалавечкам!*

*Сябры мае стракатыя*
*Праз тын*
*Здзіўлёнымі вачыма доўга тлелі.*
*У дарагіх балельшчыкаў маіх*
*Ад мёду жываты пасля балелі!*

*А я ж пасля надзьмуўшыся хадзіў*
*Ад гонару*
*І джал,*
*Што не міналі,*
*Што вечарам,*
*Зірнуўшы на мяне,*
*Са смеху падаць*
*Зоркі пачыналі!*

*Зраіліся ўспаміны на мяне:*
*Пчале наш дзядзінец мёдаграем!*
*Няма больш пчол у нас.*
*Ці не па іх*
*І сохне наша груша не старая?!*

г. Даўгаўпілс

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці МУЛЯВІНА Уладзіміра Георгіевіча — народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча культуры ПНР, народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка вакальна-інструментальнага ансамбля "Песняры", вялікага прыхільніка творчасці Янкі Купалы. Дзякуючы У. Мулявіну ў рэпертуары сусветна вядомага ансамбля пастаянна гучалі музычныя творы на вершы і паэмы Купалы. Паводле драматычнай паэмы Купалы "Адвечная песня" выдатны майстра У. Мулявін стварыў оперу-прытчу "Песня пра долю".**

**У. Мулявін тонка адчуваў шматпланавасць паэзіі Янкі Купалы, таму ў яго рэпертуары з'явіліся самыя розныя па характары, эмацыянальным напале песні на словы Янкі Купалы: ад побытавай гісторыі, рок-оперы — да велічнай "Малітвы".**

**Да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы Уладзімірам Мулявіным быў створаны вакальны цыкл на вершы паэта: "Пакіньма напуста на лёс свой наракаць", "Пакахай мяне, дзяўчынка...", "Не глядзі...", "І як тут не смяяцца...", "Паніч і Марыся", "Я не паэта" і інш.**

**Уладзімір Мулявін ва ўсім свеце годна прадстаўляў беларускую народную песню, беларускую народную традыцыю, слова народнага паэта Беларусі Янкі Купалы...**

**Горка і балюча ўсведамляць, што краіна правяла свайго Сына ў апошні шлях... Нізка схіляем галовы.**

**КУПАЛАЎЦЫ**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю галоўнага рэжысёра Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Андрэя Фёдаравіча Андросіка і выказвае сардэчныя спачуванні калектыву тэатра, сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

